12 снежня 2014 | № 47 (416)

Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Вышэйшая адукацыя ў Грузіі платная**
стар. 5

**6 КАНЕЦ САЮЗА**

СССР перастаў існаваць 8 снежня 1991 года, а 8 снежня 2014 года стала вядома, што Беларусь можа пакласці канец адразу двум саюзам — Мытнаму і Еўразійскаму эканамічнаму

**14–15 СЦЭНЫ ЖЫЦЦЯ АНДРЭЯ КУРЭЙЧЫКА**



Андрэй Курэйчык за свае 34 гады паспеў здзейсніць столькі, што цяжка паверыць яго пашпартным дадзеным

**13 САКРАЛЬНАЯ АНЕКСІЯ КРЫМА**

З паслання Пуціна парламенту расіяне нечакана даведаліся пра тое, што Крым мае для іх сакральны сэнс



# Лаві шпіёна!

**Справа Алесіна адзін у адзін паўтарае справу Андрэя Гайдукова**



Сяргей ПУЛЬША

Аглядальніка і эксперта Аляксандра Алесіна выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Тым не менш, справа ў адносінах да яго не закрытая, і ён па-ранейшаму абвінавачаны па шпіёнскім артыкуле.

У сітуацыі з затрыманнем журналіста КДБ быў у звыклым рэпертуары: ніякай інфармацыі людзям, і як мага больш «туману» тым, каму інфармацыі не даць нельга — родным затрыманага. Пра тое, што Алесіна арыштавалі, грамадскасць даведалася са спазненнем у 10 дзён. Затрымалі яго 25 лістапада, у прэсу ж гэта прасачылася 5 снежня.

Як стала вядома, Алесіна затрымлівалі ў кавярні, разам з нейкім дыпламатам невядома якой краіны. У размовах з ягонымі роднымі прадстаўнікі КДБ запэўнівалі, што сам Алесін для ведамства не цікавы, як яны казалі, «не з'яўляецца асноўным фігурантам справы», ім цікавы дыпламат, з якім той сустракаўся. Але дыпламат мае імунітэт, і таму не быў затрыманы. Наймаць Алесіну адваката ў КДБ не раілі, «бо, магчыма, яго вызваляць пад падпіску аб нявыездзе па стане здароўя».

Шкада, што родныя журналіста купіліся на казуістыку КДБ. Алесін, можа быць, і не асноўны фігурант справы, але ў тым выпадку, калі іншы яе фігурант мае дыпламатычны імунітэт, ён папросту адзіная кандыдатура ў абвінавачаныя.

Дзяцей Алесіна заблыталі і фармулёўкамі Крымінальнага кодэкса. Яны паведамілі, што ў дачыненні да журналіста распачата справа па артыкуле 356 «Здрада дзяржаве» і артыкуле 356 ч.1 «Выдача дзяржаўнай таямніцы замежнай дзяржаве, замежнай арганізацыі ці прадстаўніку, альбо шпіянаж».

Між тым, гэта не два розных абвінавачванні, а адно. Так, артыкул 356 называецца «Здрада дзяржаве», а тое, што дзеці працытавалі ў якасці другога абвінавачвання, — пачатак першай часткі гэтага ж артыкула. Па ёй прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад 7 да 15 гадоў. «Шпіянаж» сюды не ўпісваецца, бо гэта артыкул 358 КК РБ, і тычыцца ён толькі замежных грамадзян альбо асобаў без грамадзянства. Ёсць яшчэ «артыкул Гайдукова» — 356–1: усталяванне супрацоўніцтва са спецслужбай замежнай дзяржавы пры адсутнасці прыкмет здрады дзяржаве. Санкцыя па ім — ад 6 месяцаў арышту да двух гадоў пазбаўлення волі.

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч, каментуючы гэтую блытаніну, зазначыў: артыкул 356–1 выключае прад'яўленне абвінавачвання па артыкуле 356, паколькі гэта артыкул прадугледжвае адказнасць за ўсталяванне супрацоўніцтва з замежнай выведкай без прыкмет здрады. Калі абвінавачванне прад'яўлена па 356–1, то Алесіна не могуць трымаць пад вартай, бо прадугледжанае пакаранне — менш за тры гады, і ён павінен быць вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.

У гэтай сітуацыі маўчанне — зусім не золата, а хутчэй наадварот. Пакуль калегі не ведалі пра затрыманне, Алесін сядзеў у СІЗА КДБ. Як толькі ўзняўся розгалас, яго хутка вызвалілі.

«Мяне толькі што выпусцілі. Перакваліфікавалі артыкул — і вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе і аб невыдаванні інфармацыі. Абвінавачваюць у супрацоўніцтве з замежнай спецслужбай. Больш падрабязнасцяў пакуль расказаць не магу, каб не было ўскладненняў. Сітуацыя пакуль яшчэ досыць складаная, дзеянні яшчэ не завершаныя, таму я павінен пакуль захоўваць маўчанне», — сказаў Алесін у кароткім каментары з нагоды свайго вызвалення.




**Артыкул 356–1 — вельмі зручны для КДБ, па ім можна абвінаваціць любога чалавека**

Гэта значыць, што спачатку эксперту сапраўды шылі артыкул «здрада дзяржаве». А потым яго перакваліфікавалі на 356–1: «Усталяванне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы» — той, пра які казаў Стэфановіч.

Справа Алесіна адзін у адзін паўтарае справу Андрэя Гайдукова. Таму таксама спачатку прад'явілі абвінавачванне ў здрадзе дзяржаве, а потым перакваліфікавалі артыкул і асудзілі на паўтара гады зняволення.

Артыкул 356–1 — вельмі зручны для КДБ, па ім можна абвінаваціць любога чалавека.

Чаму шпіёнскія справы па артыкуле «здрада дзяржаве» амаль заўсёды развальваліся? Таму што, паводле гэтага артыкула, выдача дзяржтаямніцы альбо шпіянаж павінны быць здзейсненыя грамадзянінам Беларусі свядома і «наўмысна», з мэтаю нанесці шкоду дзяржаве. Артыкул жа 356–1 амаль ніякіх доказаў не патрабуе. Ён прадугледжвае адказнасць за сам факт усталявання сувязі з замежнымі спецслужбамі, разведкамі альбо органамі бяспекі на канфідэнцыйнай аснове, прычым не ўдакладняецца, што лічыць, напрыклад, «органам бяспекі» замежнай дзяржавы.

У самым прымітыўным выпадку: едзеце вы, напрыклад, на машыне па тэрыторыі Расіі, Украіны, Польшчы альбо Літвы. Вас спыняе паліцэйскі за перавышэнне хуткасці і выпісвае штраф. Вы яго аплачваеце — і забываецеся пра гэта да таго часу, пакуль паперы пра вашае затрыманне не прыходзяць у Беларусь. І вось вам два гады калоніі. За што?

З паліцэйскім размаўлялі? Значыць, усталялі кантакт з «органам бяспекі замежнай дзяржавы». Пра штраф не расказалі? Значыць, канфідэнцыйна. І нават у фінансавыя стасункі ўступілі з замежным органам бяспекі, што пацвярджаецца вашай квітанцыяй аб аплаце штрафу.

Зараз, не ведаючы абставінаў абвінавачвання, цяжка сказаць, чым скончыцца «справа Алесіна», і ці паўторыць ён лёс Гайдукова. Ёсць і іншыя прыклады заканчэння такіх спраў — напрыклад, справа ксяндза Лазара, якую закрылі «за адсутнасцю доказаў». Канешне, Лазар паўгады правёў у СІЗА КДБ, але ж не даганяў потым свой тэрмін у калоніі.

# Толькі групамі не фатаграфавацца!

**У Віцебску забараняюць фатаграфавацца на вуліцы. Тым больш — групамі.**

Адказ такога зместу атрымаў з адміністрацыі Чыгуначнага раёну праваабаронца Павел Левінаў.

Пасля таго, як некалькі віцебскіх журналістаў і актывістаў былі аштрафаваныя за фотасесію на фоне гарадскога графіці — малюнка, дзе з клетак вырываюцца на волю птушкі, праваабаронца вырашыў спраўдзіць фармулёўкі судовых рашэнняў. Паколькі ўдзельнікаў фотасесіі абвінавацілі ў несанкцыянаваным пікетаванні, Левінаў хацеў паглядзець на рэакцыю мясцовых уладаў, калі звярнуцца да іх па дазвол на фотаздымкі:

«Я паведаміў у раённую адміністрацыю, што хачу сфатаграфавацца з сябрамі. Удакладніў, што «від масавага фатаграфавання — перформанс, форма сучаснага мастацтва, калі творам з'яўляюцца дзеянні групы», бо ўдзельнікі падчас фотасесіі могуць перамяшчацца, прымаць нейкія позы, мець пры сабе нейкія рэчы... Я меркаваў, што мне адкажуць у адпаведнасці з заканадаўствам аб правядзенні масавых акцыяў. Маўляў, фотасесія — гэта не масавая акцыя. Бо гэта не сход, не шэсце і не пікет, пра якія гаворыцца ў законе. Аднак, атрымалася наадварот. Намеснік кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Аляксандр Ільмовіч забараніў калектыўнае фатаграфаванне, назваўшы яго «масавым мерапрыемствам», на падставе адсутнасці ў мяне дамоваў з міліцыяй, медыкамі і дворнікамі!»

Павел Левінаў пісаў у раённую адміністрацыю, што хоча сфатаграфавацца з сябрамі каля таго самага будынка па вуліцы Ільінскага, на якім намалявана графіці з птушкамі і клеткамі. За фотаздымкі ў гэтым месцы былі аштрафаваныя журналісты Алена Сцяпанава, Зміцер Казакевіч, Кастусь Мардзьвінцаў і грамадскія актывісткі, прыхільніцы стварэння партыі БХД Таццяна Севярынец і Алена Шабуня. У судзе ў іх таксама пыталіся, ці бралі яны дазвол на фатаграфаванне, якое кваліфікавалі як масавае мерапрыемства. Маўляў, удзельнікі сабраліся ў адным месцы, з аднолькавай мэтай — сфатаграфавацца, а пры сабе мелі «рэквізіт» — папяровыя клеткі і птушак-арыгамі. Іх выкарыстанне, на думку прадстаўніка Чыгуначнага РАУС, маёра Аляксандра Рыбакова, спрыяла «выказванню грамадскіх і сацыяльных інтарэсаў» — так напісана ў пратаколах, складзеных міліцыянтам.

**svaboda.org**

# Пазбавіць льгот «афганцаў»

Сяргей ПУЛЬША

**Вядомы праваабаронца Алег Волчак можа быць пазбаўлены статуса ўдзельніка баявых дзеянняў у Афганістане. Разам з ім з-за бюракратычных закідонаў непрыемны падарунак у новым годзе могуць атрымаць і сотні «афганцаў».**

Як распавядае кіраўнік арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» (Кіеў, Украіна) Алег Волчак, у 2012 годзе быў прыняты ўказ кіраўніка дзяржавы аб замене савецкіх пасведчанняў на пасведчанні Рэспублікі Беларусь. «Зазначу, што савецкае пасведчанне — гэта не пасведчанне ўдзельніка баявых дзеянняў. Яно мае назву «Пасведчанне аб праве на ільготы». Тады вырашылі не даваць «афганцам» статус удзельніка вайны. Зараз ёсць пагадненне СНД ад 1994 года, дзе ў «афганцаў» вызначаны статус: «ветэраны баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаваў», — распавядае Волчак.

Ён нагадаў, што ў 2007 годзе парламент унёс змены ў заканадаўства, згодна з якімі «афганцы» былі пазбаўленыя шэрагу ільготаў. У сувязі з гэтым ветэраны Афганістану, у першую чаргу сам Волчак, Мікалай Аўтуховіч і Аляксандр Камароўскі, звярталіся ў Савет міністраў і да кіраўніка дзяржавы з тым, каб правы «афганцаў» былі ўзноўленыя, а таксама самі ўзнялі пытанне пра статус удзельнікаў баявых дзеянняў і замену пасведчанняў. Адказ на іх зварот быў прадказальны: эканамічная сітуацыя не дазваляе вярнуць ільготы ветэранам Афганістану. Аднак, што тычыцца пасведчанняў, то гэтае пытанне паабяцалі разглядаць.

І разгледзелі. Замена пасведчанняў «Аб ільготах» на пасведчанні «ветэрана баявых дзеянняў» пачалася, і павінна скончыцца 1 студзеня 2015 года.

Волчак яшчэ ў сакавіку 2014 года падаў дакументы на замену пасведчання. Пасля гэтага ён некалькі разоў прыходзіў у ваенкамат, але яму казалі, што ягоныя дадзеныя правяраюцца, і нейкая гарадская камісія разглядае, ці законна і падставова Волчак атрымаў статус «афганца». «Дагэтуль, 25 гадоў, я лічыўся «афганцам», у мяне ёсць грамата, падпісаная Гарбачовым, за службу ў Афганістане, ёсць адпаведныя запісы ў ваенным білеце, ёсць ліст падзякі, высланы маім бацькам і падпісаны камандзірам маёй вайсковай часткі Канстанцінам Антоцкім, які потым стаў генералам Федэральнай службы пагранвойск Расіі, і гэтак далей», — адзначае праваабаронца.

Парадокс сітуацыі ў тым, што адначасова з гэтай праверкай Волчаку надалі медаль «25 год вываду войскаў з Афганістану», і папрасілі забраць узнагароду. «Я яе забіраць адмовіўся: бо мой статус як ветэрана Афганістана яшчэ, аказваецца, не правераны і не пацверджаны», — кажа Волчак.

Акрамя таго, Волчак адмаўляецца прымаць гэтую ўзнагароду з яшчэ адной нагоды — 3 той самай, па якой ён, Аўтуховіч і Камароўскі адмовіліся ад узнагароды «20 год вываду войскаў з Афганістану» ў 2008-м годзе. «Нашы правы, парушаныя ў 2007 годзе, не ўзноўленыя, хоць міністр абароны тады абяцаў, што будуць унесеныя змены ў заканадаўства, якія адновяць ільготы ўдзельнікам баявых дзеянняў», — зазначыў Волчак.

«Калі мне пасведчанне не будзе выдадзена да 1 студзеня 2015 года, то фактычна я не змагу называцца ветэранам баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў», — кажа Волчак.

«Не я адзін патрапіў у гэтыя «праверкі»: я ведаю яшчэ шэраг «афганцаў», якія праходзяць гэтую працэдуру, — адзначае Волчак. — Не ўсе атрымалі новыя пасведчанні — з-за гэтых бюракратычных праверак, не ўсе атрымалі медалі. Паўстае пытанне: як быць тым, каго «не праверылі» да 1 студзеня? Бо, напрыклад, з 1 студзеня «афганцы», якія маюць ільготу на праезд, павінны ездзіць па новых пасведчаннях, а старыя губляюць моц. Як ні дзіўна, старыя пасведчанні працягваюць дзейнічаць на тэрыторыі іншых дзяржаў СНД, але не ў Беларусі. Я не выключаю, што на глебе «старых» і «новых» пасведчанняў у ветэранаў-«афганцаў» могуць узнікнуць праблемы і канфлікты, напрыклад, з тымі ж кантралёрамі ў транспарце».

# Уручана Другая прэмія Францішка Аляхновіча

**Беларускі ПЭН-цэнтр і беларуская рэдакцыя «Радыё Свабода» 10 снежня назвалі лаўрэатаў другой прэміі імя Францішка Аляхновіча за творы, напісаныя ў зняволенні.**

Сёлета арганізатары вырашылі назваць лаўрэатамі прэміі шэсць з дзевяці канкурсантаў. Дыпломы лаўрэатаў «За таленавітае сведчанне асабістай мужнасці, годнасці і адданасці ідэалам свабоды» атрымалі лідар маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Малады фронт» (Чэхія) Дзмітрый Дашкевіч (зборнік апавяданняў «Чарвяк»), агляндальнік штотыднёвіка «БелГазета» Фелікс Пекер (раман «10 гадоў і адзін дзень Ігара Саўчанкі»), сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец (зборнік эсэ «Беларуская глыбіня» і аўтабіяграфічнае апавяданне «Ноч у Маскоўскім»), кіраўнік ліквідаванага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі («Ртутнае срэбра жыцця»), палітык і літаратар Аляксандр Фядута (аповесць «Мой маленькі Парыж»), а таксама журналістка Ірына Халіп (кніга «Дзённік зэчкі»).

«Няпроста напісаць кнігу такога аб'ёму ў такіх умовах, якія гэтаму не асабліва спрыяюць, — сказаў Фелікс Пекер. — У зняволенні галоўнае — не страціць свой твар, узровень, якім ты валодаеш. А адзіны творчы занятак там — пісаць. Кніга напісалася проста таму, што іншага выйсця не было».

Ганаровыя дыпломы ўдзельнікаў конкурсу ўручылі актывістцы «Маладога фронту» з Нясвіжа Анастасіі Азарцы (аўтабіяграфічны раман «Зона лёсу»), кансультанту «Радыё Свабода» Ігару Міхнаўцу (апавяданне «Мамка»), а таксама Аляксандру Бут-Гусаіму, які быў прыгавораны да пажыццёвага зняволення, але здолеў выйсці на волю (пакуль не аформленая ў выглядзе кнігі безыменная справаздача аб крымінальнай справе і турэмным вопыце).

Прэмія імя Францішка Аляхновіча была заснавана вясной 2013 года. Яе першым лаўрэатам стаў аўтар кнігі «Еду ў Магадан» палітзняволены Ігар Аліневіч.

**Захар Шчарбакоў, БелаПАН**

# У турмах не салодка

Генадзь КЕСНЕР

**У Міжнародны дзень правоў чалавека, 10 снежня, зачыненыя ўладамі Праваабарончы цэнтр «Вясна» зладзіў прэзентацыю Справаздачы па выніках маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання ў Рэспубліцы Беларусь. Сітуацыя, кажуць праваабаронцы, застаецца сумнай.**

Па словах юрыста Паўла Сапелкі, маніторынг грунтуецца на аналізе заканадаўства, на аснове адкрытых крыніцаў і апытанняў зняволеных, у тым ліку і былых. Выніковая справаздача ўтрымлівае дадзеныя па колькасці месцаў зняволення і саміх зняволеных, прыклады парушэння працоўных правоў вязняў. «Нават тыя правы, якія замацаваныя за зняволенымі, паўсюдна парушаюцца», — адзначыў Сапелка.

Справаздача таксама ўтрымлівае дадзеныя пра стан турэмнай медыцыны, аналіз заканадаўства, які рэгламентуе правы зняволеных на ліставанні, на звароты ў розныя органы, і зроблена выснова, што гэтыя правы неабгрунтавана парушаюцца.

«Тут таксама ёсць аналіз магчымасцяў грамадзянскага кантролю за месцамі пазбаўлення волі, іншых месцаў несвабоды, які прыводзіць да высновы аб татальна закрытым характары такіх установаў. Апроч класічных месцаў пазбаўлення волі вывучаўся інстытут закрытых установаў адукацыі, у выніку чаго мы прыйшлі да высновы, што ўсе гэтыя ўстановы маюць прыкметы месцаў пазбаўлення волі. Вывучаўся таксама інстытут лячэбна-працоўных прафілакторыяў, якія практычна аказаліся класічнымі месцамі пазбаўлення волі», — падкрэсліў юрыст.

Асаблівую ўвагу аўтары справаздачы надалі барацьбе з катаваннямі, з жорсткім і бесчалавечным абыходжаннем у месцах пазбаўлення волі. «Гэтая справаздача ўтрымлівае некалькі найбольш яскравых прыкладаў такога абыходжання, тут працягнута вывучэнне стану адміністрацыйна затрыманых. У выніку мы прыйшлі да высновы, што ў месцах пазбаўлення волі ў Беларусі прымяняюцца катаванні, а таксама бесчалавечнае і абразлівае абыходжанне. Выпадкі такога абыходжання не расследуюцца аб'ектыўнай і незалежнай інстанцыяй», — канстатаваў праваабаронца.

Паводле ягоных словаў, апроч калоній і турмаў, у Беларусі існуе шэраг установаў, утрыманне ў якіх можа быць прыроўнена да пазбаўлення волі. Таму, лічаць эксперты, як папраўчыя ўстановы, так і іншыя месцы несвабоды падлягаюць вываду з сістэмы Міністэрства ўнутраных справаў. Заканатворцам і адпаведным дзяржаўным структурам аўтары справаздачы прапануюць шэраг захадаў: выключыць выпадкі катаванняў і жорсткага, бесчалавечнага абыходжання ў месцах несвабоды, па кожным з такіх выпадкаў праводзіць своечасовую аб'ектыўную праверку і прыцягваць вінаватых да крымінальнай адказнасці. Таксама варта забяспечыць права зняволеных на юрыдычную дапамогу, ліквідаваць інстытут лячэбна-працоўных прафілакторыяў, зрабіць захады па прадухіленні дыскрымінацыі вязняў і сферы працы, стварыць умовы для ажыццяўлення грамадскага кантролю за месцамі несвабоды.

Вось толькі ці прыслухаюцца ўлады да прапановаў праваабаронцаў?

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Падарунačкі пад ялінку

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Па ўсім свеце ўжо запалілі агні на калядных ялінках. Беларусь таксама, як зараз модна казаць, «у трэндзе». Кіраўніцтва краіны ўжо заклапацілася пра тое, каб даць людзям спакойна адсвяткаваць Каляды і Новы год. Праўда, потым прыйдзецца разбірацца з вынікамі гэтых святкаванняў.**



Аляксандр Лукашэнка загадаў цэнам не расці да Новага года і даручыў выканаўчым уладам забяспечыць выкананне гэтага загаду. «Мы напярэдадні святаў, самых любімых у людзей, — Новага года і Калядаў. Чалавек хоча годна іх сустрэць. Вы выдатна разумееце, хоць Мінск багацейшы за іншых рэгіёнаў краіны, але людзі тут розныя — багатыя, сярэднія і бедныя. Трэба не забываць, што Новы год — гэта перш за ўсё стол, застолле, і людзі заслужылі, пражыўшы і адпрацаваўшы гэты цяжкі год, каб цэны ў крамах былі нармальныя. Галоўнае, каб яны не падскочылі ў гэты перыяд», — сказаў Лукашэнка, выклікаўшы на даклад кіраўніка Мінгарвыканкама Андрэя Шорца.

«Не толькі ў Расіі, як мы гэта заўважылі, хочуць рукі нагрэць, але і ў нас дзякі такія ёсць, хай іх няшмат, але ні ў якім разе нельга даць падставу, каб яны працавалі на ўздым цэнаў», — незадаволена бурчаў беларускі кіраўнік.

Мэр Мінска паслухаўся кіраўніка дзяржавы. Як ні дзіўна, тычыцца гэта зусім не харчоў. Найперш, не адбылося чаканага ў першай дэкадзе снежня падаражання праезду ў гарадскім транспарце. Ён як быў, так і застаўся на ўзроўні 4.000 рублёў. А гэта важна не толькі для Мінска, але і для ўсёй краіны, таму што ўслед за Мінскам звычайна падымаюцца кошты на праезд і ў рэгіёнах.

Мінгандаль Беларусі загадаў галіновым міністэрствам, канцэрнам, абласным і Мінскаму гарадскому выканкамам «абвясціць мараторый на павелічэнне адпускных і рознічных цэн на спажывецкія тавары ў перадсвяточныя і святочныя дні (да 15 студзеня 2015 года)».

За невыкананне парадку цэнаўтварэння, а таксама заканадаўства аб гандлі і грамадскім харчаванні да парушальнікаў будуць прымацца самыя жорсткія меры, аж да закрыцця гандлёвых аб'ектаў і аб'ектаў грамадскага харчавання.

Гэта найбольш прыемная навіна для тых камерцыйных структураў, якія ў сферы гандлю не працуюць, але робяць для сваіх супрацоўнікаў навагоднія «карпаратывы». Калі раней кошты на такія вечарыны пад Новы год узляталі да нябёсаў, то зараз усё — мараторый. А хто заломіць «нябесны кошт», дык тым і «жорсткія меры» аж да закрыцця.

**Можа, Аляксандру Рыгоравічу адразу выдаць адмысловы дэкрэт, якім забараніць чыноўнікам выдаваць шкодныя для насельніцтва пастановы, а насельніцтву дазволіць не выконваць неразумныя загады чыноўнікаў?**

Увогуле, Аляксандр Рыгоравіч, пэўна, любіць рабіць падарункі. Асабліва, калі гэтыя падарункі, па-першае, вырашаюць старыя праблемы, створаныя чыноўнікамі, а па-другое, тычацца ўсяго грамадства. Прынамсі, зараз ён жорстка, як кажуць, «па самыя памідоры» «ўставіў» міністру аховы здароўя Васілю Жарко за ягоныя навацыі з рэцэптамі.

Раней было як? Доктар выпісвае рэцэпт — і хадзі з ім у аптэку паўгады, альбо колькі спатрэбіцца для курсу лячэння. Згодна з новымі правіламі, адзін раз лекі купіў — пакінь рэцэпт у аптэцы. Калі табе трэба набыць лекі яшчэ раз — бяжы да ўрача па новы рэцэпт.

Зразумела ж, такая сістэма выклікала абурэнне. Улічваючы кошт лекаў у аптэках, пенсіянеры, пажылыя людзі, і не толькі яны, набывалі лекі «ўраздроб»: па пласцінцы таблетак, па пакуначку парашку. А зараз кожны паход за лекамі ператвараецца ў вандроўку «аптэка — паліклініка — аптэка». На новую пакупку патрэбны новы рэцэпт, а гэта азначае ледзь не штотыднёвае наведванне паліклінікі.

«Гэта ваша вядомая пастанова выклікала цэлую буру эмоцый у нашым грамадстве. Людзі пачалі скардзіцца, што Міністэрства аховы здароўя займаецца не тым, чым трэба, Мінздароўю трэба заняцца ўмовамі лячэння, а не усталяваннем бюракратычных перашкод», — заявіў Лукашэнка, выклікаўшы да сябе Жарко.

«Людзі настроеныя вельмі негатыўна! І нельга супрацьпаставіць іх думцы нічога! Навошта гэта было ўводзіць напярэдадні рознага роду вірусаў, эпідэмій, вострага перыяду захворвання? Нагрузка на лекараў павялічылася пры выпісцы. І шмат іншых пытанняў і праблем», — вазіў тварам па сталу міністра беларускі кіраўнік, падкрэсліўшы: Мінздароўя не павінна баяцца прызнаць, што здзейсніла памылку, прыняўшы рашэнне аб новым парадку водпуску лекавых сродкаў у аптэках.

Жарко паспрабаваў патлумачыць, што Мінздароўя адзначае значны рост аб'ёму спажывання лекавых сродкаў. У выніку аналізу сітуацыі яны прыйшлі да высновы, што частка лекавых сродкаў рэцэптурнага спісу адпускаецца без рэцэпту. Паводле слоў Жарко, часцей за ўсё гэта адбываецца ў камерцыйных структурах.

Дзівак гэты Жарко! Канешне, лекавыя сродкі рэцэптурнага спісу павінны адпускацца па рэцэптах — з гэтым ніхто не спрачаецца. Але сітуацыя, калі рэцэпт людзі павінны пакідаць у аптэцы, якраз і вядзе да таго, што «частка лекавых сродкаў рэцэптурнага спісу адпускаецца без рэцэпту»! Ну, напрыклад, аптэкарка альбо фармацэўт ведаюць: чалавек 10 год да іх прыходзіў па адны і тыя ж лекі, і заўсёды з рэцэптам. А зараз, то бок мінулым разам, рэцэпт, згодна навацыям Жарко, у яго забралі. І што, ведаючы чалавека 10 год, яны не дадуць яму лекі без рэцэпту? Тым больш, што ведаюць: рэцэпт у яго ёсць, проста яны самі ў яго гэты рэцэпт мінулым разам забралі...

А тое, што пайшоў значны рост спажывання лекавых сродкаў... Улічваючы кошты на лекі, Жарко наадварот павінен радавацца і дакладаць Лукашэнку, колькі грошай у казну з гэтага патрапіла, а не абмяжоўваць продаж пігулак ды парашкоў.

Можа, Аляксандру Рыгоравічу адразу выдаць адмысловы дэкрэт, якім забараніць чыноўнікам выдаваць шкодныя для насельніцтва пастановы, а насельніцтву дазволіць не выконваць неразумныя загады чыноўнікаў? Раз і назаўсёды...

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Сяргей Лаўроў

**Кіраўнік расійскага МЗС вырашыў распараджацца Беларуссю і Казахстанам.**

На гэтым тыдні Сяргей Лаўроў заявіў, што можа ўзнікнуць неабходнасць у рамках Мытнага саюза адказаць на заходнія санкцыі супраць Расіі.

«Нарматыўна-прававая база Мытнага саюза дазваляе яго ўдзельнікам прымаць сумесныя крокі гандлёвага характару ў выпадку аказання трэцімі краінамі эканамічнага ціску на адну з дзяржаў — сябраў МС. Тым не менш, на сённяшні дзень на парадку МС пытанне аб рэалізацыі гэтых дзеянняў у адказ на абмежавальныя меры Захаду ў дачыненнях да Расіі не стаіць. Не выключаем, аднак, што такая неабходнасць можа паўстаць у будучыні», — сказаў Лаўроў.

Гэта заява была зроблена на фоне канфлікту вакол паставак беларускай прадукцыі на расійскі рынак і на фоне ўвядзення Беларуссю мытных праверак на мяжы з Расіяй. Што дэ-факта азначае выхад з Мытнага саюза, на які так спадзяецца Лаўроў.



### Мікалай Статкевіч

**Экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі 12 студзеня павінны перавесці з турмы ў калонію.**

Пра гэта Мікалай Статкевіч паведаміў журналісту Барысу Вырвічу, які перапісваецца з палітыкам.

«У калонію мяне сапраўды павінны перавесці. Гэта мае адбыцца 12 студзеня наступнага года, калі скончацца тры гады турэмнага рэжыму, на якія мяне асудзілі. Тут маглі пры адсутнасці спагнанняў вярнуць мяне ў калонію і праз паўтара гады, але гэта не для «палітычных». З калоніі могуць вярнуць зноў сюды, але маёй пазіцыі гэта не зменіць», — напісаў Статкевіч.

Зняволены палітык таксама паведаміў, што да яго даходзяць не ўсе лісты з волі. У прыватнасці, па словах Вырвіча, Статкевіч напісаў, што не атрымліваў ад яго лістоў ужо некалькі месяцаў, хоць журналіст кожны месяц адсылае палітвязню ліст або паштоўку з апошнімі навінамі.

Нагадаем, Мікалай Статкевіч — адзіны кандыдат у прэзідэнты Беларусі, які да гэтага часу ў зняволенні. У маі 2011 года суд Ленінскага раёна Мінску прыгаварыў яго да 6 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў арганізацыі масавых беспарадкаў у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010-га. Першапачаткова палітык утрымліваўся ў шклоўскай калоніі № 17, аднак у студзені 2012 года яму зрабілі больш жорсткія ўмовы адбыцця пакарання, перавёўшы ў магілёўскую турму № 4.

Палітыку неаднаразова прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі, але Статкевіч катэгарычна адмаўляўся гэта зрабіць.



### Віктар Ганчарэнка

**Былы трэнер БАТЭ і «Кубані» можа ўзначаліць расійскі футбольны клуб «Растоў».**

Прадстаўнікі «Растова» звязваліся з Віктарам Ганчарэнка праз некаторы час пасля яго звальнення з краснадарскай «Кубані», аднак у той момант да канкрэтнага адказу з боку трэнера справа не дайшла. Ганчарэнка, па некаторых дадзеных, не даў канкрэтнага адказу: у яго ёсць «добры варыянт у адной з краін былога СССР». Тым не менш, у «Растове» спадзяюцца, што менавіта беларускі трэнер узначаліць растаўчан ужо ў снежні.

Нагадаем, што Ганчарэнка ўзначаліў «Кубань» у кастрычніку 2013 года. Кантракт з ім быў падпісаны на чатыры з паловай гады. Пад ягоным кіраўніцтвам «Кубань» добра правяла чэмпіянат Расіі сезону–2013/14, і пацярпела ўсяго 1 паразу ў 13 матчах. Пасля 13 тураў чэмпіянату Расіі сезону–2014/15 Ганчарэнку па незразумелых прычынах «папрасілі» з краснадарскага клуба. Беларускі трэнер, хутчэй за ўсё, не знайшоў агульнай мовы з уладальнікамі «Кубані», нягледзячы на тое, што на момант ягонага звальнення клуб займаў пятае месца ў турнірнай табліцы. Ад маскоўскага ЦСКА, які займаў другую пазіцыю, клуб аддзяляла адно ачко.



# Балонскі працэс: праскочым на халяву?

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь не выканала ўмоваў далучэння да агульнаеўрапейскай сістэмы адукацыі. Але можа так стацца, што наша краіна, як кепскі студэнт, праскочыць туды «на халяву». Шанцы на гэта ёсць, і даволі неблагія.**

Як вядома, маладзёжныя дэмакратычныя арганізацыі зараз збіраюць подпісы за правядзенне рэформаў, неабходных для далучэння Беларусі да Балонскага працэсу. Але падчас нядаўняга «круглага стала», прысвечанага праблемам адукацыі, прафесар Уладзімір Дунаеў агаломшыў: Беларусь можа быць далучаная да агульнаеўрапейскай сістэмы адукацыі «валюнтарысцкім рашэннем» удзельнікаў гэтага працэсу.

## Умовы не выкананыя

Беларусь падала заяўку на ўступленне ў Балонскі працэс у 2011 годзе. У 2012 годзе гэтая заяўка была адкладзеная ўбок, з рэкамендацыямі Беларусі спачатку выканаць тры ўмовы і выправіць тры хібы нашай сістэмы адукацыі: надаць акадэмічныя свабоды студэнтам і выкладчыкам, надаць інстытуцыянальныя аўтаноміі ўніверсітэтам і пашырыць удзел студэнтаў у кіраванні ВНУ. Па меркаванні Уладзіміра Дунаева, нічога з гэтага зроблена не было.

Што тычыцца акадэмічных свабодаў, дык Дунаеў зазначыў: рэпрэсіі ва ўніверсітэтах набылі новыя формы. Прычым, гэта ўжо не палітычныя рэпрэсіі, за ўдзел студэнтаў і выкладчыкаў у апазіцыйных арганізацыях альбо масавых акцыях, а рэпрэсіі менавіта акадэмічныя. Шмат было фактаў уціску выкладчыкаў за тое, што яны публікавалі ў замежных выданнях навуковыя артыкулы, якія не супадалі з «генеральнай лініяй партыі». Адзін прыклад з кнігай «Гродназнаўства» чаго варты.

Наконт аўтаноміі ўніверсітэтаў Дунаеў зноў прывёў прыклад Гродзенскага ўніверa, дзе губернатар вобласці, не саромеючыся, запатрабаваў звольніць выкладчыка гэтага ВНУ. Хаця гэты выкладчык ну ніякім чынам пад «юрысдыкцыю» губернатара не падпадаў.

Студэнцкае самакіраванне, нібыта, створанае. Не так даўно па дзяржаўных СМІ праходзілі пераможныя рэляцыі пра тое, што зараз заканадаўча ўстаноўлена — у складзе Рады адукацыйнай установы павінна быць не менш 25% студэнтаў. Нібыта яны і ёсць, кажа Дунаеў. «Але калі мы спрабуем правесці маніторынг выканання гэтай нормы, больш паловы ВНУ адмаўляюцца прадстаўляць нейкія звесткі аб складзе Рады. І не тое, што нам, — а нават сваім жа выкладчыкам і студэнтам», — адзначае Дунаеў.

Карацей, патрабаванні Балонскага працэсу Беларусь не выканала. І казаць аб яе ўступленні ў гэты працэс не варта. І можна, падавалася б, збіраць подпісы, патрабаваць ад уладаў рэальных рэформаў адукацыі і гэтак далей.

Але, на жаль, часу, каб ставіць нейкія патрабаванні і асабліва дамагацца выканання гэтых патрабаванняў, ужо няма.



Уладзімір Дунаеў: Беларусь могуць прыняць у Балонскі працэс па палітычных прычынах

## Куды ні кінь — паўсюль палітыка

Па меркаванні Дунаева, Беларусь можа быць прынятая ў Балонскі працэс і без выканання любых умоваў — «на халяву». Канешне, ва ўсё ўмяшалася палітыка.

На фоне вайны ва Украіне Еўропа пачала размаўляць з Лукашэнкам. Гэты «realpolitik» можа выліцца ў тое, што краіну дапусцяць у Балонскі працэс без неабходных рэформаў — у якасці «перніка» і каб «адцягнуць» яе ад Расіі хаця б у сферы адукацыі. І адбыцца гэта можа вельмі хутка.



Канферэнцыя міністраў адукацыі краін Балонскага працэсу, на якой павінна разглядацца «беларускае пытанне», адбудзецца ў маі 2015 года. Аднак, па словах Дунаева, гэта фармальнасць, на якой далучэнне краіны «галасуецца за пяць хвілінаў».

Рэальна ж рашэнне пра далучэнне ці недалучэнне Беларусі ў Балонскі працэс прымаецца рабочай групай, якая складаецца з некаторых краінаў — сябраў Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі і грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць альбо рэальны, альбо дарадчы голас.

Менавіта гэтая група прымае рашэнне, якое потым фармальна зацвярджае Канферэнцыя міністраў адукацыі. А пасяджэнне гэтай рабочай групы адбудзецца ўжо ў сярэдзіне студзеня 2015 года. «Часу, каб паўплываць на яе рашэнне, амаль не засталося», — зазначыў Дунаеў.

У склад гэтай рабочай групы, найперш, уваходзяць прадстаўнікі «realpolitik»: Савета Еўропы і Еўрапейскай камісіі, Еўрасаюза. Рэальна ўплываюць на сітуацыю Еўрапейскі саюз студэнтаў (ЕСС) і Еўрапейская асацыяцыя ўніверсітэтаў (ЕАУ). У ЕАУ ўваходзяць тры беларускія ВНУ, адна з якіх — славуты рэпрэсіямі Гродзенскі ўніверсітэт.

Рашэнне 2012 года па адкладанні заяўкі Беларусі было прынята не ў малой ступені дзякуючы ЕСС, кіраўніцтва якога было абазнанае ў беларускай сітуацыі. Але зараз гэтае кіраўніцтва змянілася, і, па словах Дунаева, на Беларусь увагі амаль не звяртае.

«Рашэнне будзе прынятае, без сумневаў, палітычнае. Але якое яно будзе прынятае? Тут, як кажуць, 50 на 50», — дадаў Дунаеў.

## Які білет лічыць шчаслівым?

Ці выцягне сінявокая «шчаслівы білет»? І які білет у гэтай сітуацыі можна лічыць шчаслівым?

З аднаго боку, супраць прыняцця Беларусі ў Балонскі працэс «без зменаў і ўмоваў» выступаюць амаль усе зацікаўленыя бакі. Таму што інакш адбудзецца «кансервацыя» нацыянальнай сістэмы адукацыі. Гэта наўрад ці «шчасце».

А з іншага, па меркаванні Дунаева, не трэба «захлопваць дзверы» Беларусі ў далучэнні да Балонскага працэсу. «Інакш ва ўладзе могуць пакрыўдзіцца, і ўвогуле сказаць: Балонскі працэс нам не трэба, у нас ёсць партнёр на Усходзе, з ім мы і будзем мець справу», — прагназуе эксперт.

Па меркаванні Дунаева, гэта можа выліцца ў прапаганду ідэяў «Рускага свету» не толькі праз расійскае тэлебачанне, а, што яшчэ горш, і праз агульныя падыходы ў сістэме адукацыі. «На Усходзе і так ужо чуваць выказванні, маўляў, занадта шмат навукоўцам далі свабоды, яны разбэсціліся. А навука рабілася і ў сталінскіх «шарашках». Канчатковы разрыў з Захадам можа апынуцца драматычным развіццём для Беларусі. Таму я не настойваю на перамозе ў гэтай барацьбе», — зазначыў Дунаеў.

# Вышэйшая адукацыя: грузінскі прарыў

Вольга ХВОІН

**Адным з крокаў рэформы сістэмы адукацыі ў Грузіі стала ўвядзенне платы за вышэйшую адукацыю. Ці дало плён такое рашэнне? Магчыма, нешта з грузінскай адукацыйнай рэформы можна выкарыстаць і для Беларусі.**



Парк насупраць універсітэта Іліі

## 280 долараў настаўніку

«Выкладчыкі цяпер атрымліваюць заробак. Пры Шэварнадзэ лекцыі ў ВНУ ўспрымалі хутчэй за грамадскую павіннасць», — гэтыя словы прафесара ўніверсітэта паказваюць, якая прорва паміж цяперашняй сістэмай адукацыі Грузіі і тым, што мела краіна яшчэ пятнаццаць гадоў таму.

Мой першы суразмоўца — былы міністр адукацыі Грузіі Дзмітрый Шашкін. Гэты ж чалавек у мінулым нумары газеты распавядаў пра рэформы войска, як такое можа быць?



Адукацыя, як і іншыя сферы жыцця ў Грузіі, на пачатку 2000-х гадоў мела бядотны стан. Таму змянялі і матэрыяльную, і інтэлектуальную базу.

«Нам дасталіся школы, якія будавалі яшчэ ў савецкі час без уліку рэальных патрэбаў у памяшканнях, без энергазберагальных тэхналогій, з вялікім адсоткам зносу. Калі мы пачалі свае рэформы, то па дзесяцібальнай шкале я б ацаніў матэрыяльную спадчыну ў 0 балаў. Цяпер я б ацаніў яе ў 6 балаў, але працы яшчэ многа, — распавядае Дзмітрый Шашкін. — Яшчэ ў нас быў праект па стварэнні класаў будучыні. У кожным раёне ў адной са школ ствараўся клас, укамплектаваны самай сучаснай тэхнікай, каб дзеці бачылі і ведалі, як яно ёсць і як будзе ў далейшым. Праэкт быў распісаны на гады, бо гэта, канешне, дарагое задавальненне. Толькі звычайны рамонт адной школы абыходзіцца ў сярэднім у 300 000 долараў. Але агульныя затраты на рэформы палічыць складана. Бо ёсць абнаўленне падручнікаў, перападрыхтоўка кадраў, змена праграмы і г.д.».

У часы кіравання Саакашвілі на адукацыю выдаткоўвалі каля 10% ад бюджэту краіны. Цяпер сярэдні заробак настаўнікаў — прыкладна 280 долараў, хаця на пачатку 2000-х гадоў быў усяго 14 долараў.

## Стыпендыі і гранты

Універсітэцкія будынкі ў Тбілісі, якія мне давялося пабачыць, выглядаюць без шыку і глянцу, нават калі там відавочна быў зроблены капрамонт. Дарагога аздаблення і абсталявання я не заўважыла. Але функцыянальна аўдыторыі прыстасаваныя для лекцый, памяшканні цёплыя. Ва ўніверсітэцкай сталоўцы новая сціплая мэбля. Меню збольшага грунтуецца на нацыянальнай кухні: хачапуры, стравы з фасолі, салаты, бульба-фры. Паабедаць можна прыкладна за 4 лары ці крыху менш (2 лары цяпер роўныя прыблізна 1 еўра).

Вышэйшая адукацыя ў Грузіі платная. Для паступлення ў ВНУ патрабуецца здаць Адзіны нацыянальны экзамен. Гэта іспыт па чатырох прадметах: лагічныя навыкі, грузінскі мова і літаратура, замежная мова і экзамен на выбар.

Па дадзеных даследавання, праведзенага Transparency International (2005), узровень карупцыі падчас прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы значна панізіўся ў Грузіі пасля ўвядзення Адзінага нацыянальнага экзамену.

Была ўведзеная індывідуальная сістэма фінансавання вышэйшай адукацыі, калі «грошы ідуць за вучнем» — дзяржава пакрывае навучанне студэнтаў толькі з вышэйшай паспяховасцю, і калі яны належаць да бяднейшых слаёў насельніцтва. Памер гранту, які атрымае студэнт, акурат такі залежыць ад паспяховасці здадзеных іспытаў: можна атрымаць кампенсацыю як у поўным памеры, так і на 50%. Сума дзяржаўнай датацыі складае прыкладна 2 250 лары на год. І, калі студэнт паступае ў прыватны ўніверсітэт, дзе кошт вышэйшы, то рэшту ён мусіць даплаціць самастойна.

Платная адукацыя зменшыла даступнасць навучання ў ВНУ, адпаведна, скарацілася і колькасць студэнтаў у краіне. Крытыкі рэформаў называюць гэта сур'ёзным недахопам.

Грузінская сістэма вышэйшай адукацыі далучаная да Балонскага працэсу, што дае магчымасць студэнтам вучыцца ў еўрапейскіх універсітэтах.

Грузінскі ўрад выдаваў сваім студэнтам стыпендыі на навучанне ва ўніверсітэтах Еўропы і ЗША і, як ні дзіўна, распісак пра вяртанне на радзіму не патрабаваў.

«Гэта быў правільны падыход. Увесь час гучала: мы патрацілі на навучанне гэтых дзяцей грошы і мусім патрабаваць, каб яны вярнуліся. Але давайце разгледзім сітуацыю: студэнт атрымаў дыплом магістра ў Масачусацкім універсітэце. У нас няма буйных хімічных прадпрыемстваў, няма базы, каб гэты чалавек адэкватна змог прымяніць свае навыкі і веды. Пасадзіць яго чыноўнікам у міністэрства? Які сэнс тады ў яго выдатнай профільнай адукацыі?» — задае рытарычнае пытанне Шашкін.

Добрая адукацыя сапраўды дае магчымасць выбару працоўнага месца з куды большым заробкам, чым у Грузіі.

«У грузін моцная сувязь са сваёй сям'ёй і, нават калі той былы студэнт будзе працаваць недзе ў Штатах, то ён перашле на радзіму больш грошай, чым зарабіў бы ў Грузіі — тлумачыць былы міністр сваю пазіцыю і эмацыйна аспрэчвае сам тэрмін «уцёкі мазгоў». — Гэта савецкі тэрмін, калі існавала «жалезная заслона». Свет адкрыты, няма межаў. Я сяду на самалёт — і праз тры гадзіны буду ў Мюнхене. Мы канкуруем не адзін з адным, а з усім светам».

Цікава, што восенню прэм'ер-міністр Грузіі Іраклій Гарыбашвілі агучыў супрацьлеглае меркаванне: «Саакашвілі і яго ўрад адпраўлялі за мяжу сваіх знаёмых студэнтаў, пасля чаго гэтыя дзеці альбо не вярталіся ў краіну, альбо вярталіся і ўладкоўваліся ў прыватным сектары. У рэчаіснасці, дзяржава выкідвала грошы, якія інвеставалі ў іх. Мы памянялі гэты падыход — калі мы інвестуем у будучае пакаленне, гэтая інвестыцыя павінна вярнуцца ў Грузію, бо грошы, якія трацяцца на іх адукацыю, нам не належаць, яны належаць нашаму народу і будучаму пакаленню».

## Адукаваныя і беспрацоўныя

Прафесар Дзяржаўнага ўніверсітэта Іліі Гіа Нодзіа стрымана ацэньвае дасягненні грузінскай адукацыйнай сферы, а параўнаць яму ёсць з чым:



— Рэформа прынесла пазітыўныя вынікі. Утварыўся больш канкурэнтны асяродак, ёсць арыентацыя на якасць, змаганне ўніверсітэтаў за студэнтаў. Выкладчыкі цяпер атрымліваюць заробак. Пры Шэварнадзэ лекцыі ў ВНУ ўспрымалі хутчэй за грамадскую павіннасць. Акадэмічная кар'ера стала больш прывабнай, адпаведна, і якасць павялічылася. Але гэтага недастаткова.

Паводле назіранняў прафесара, матывацыя да навучання ў студэнтаў павысілася, бо ў 1990-я гады адукацыя не ўспрымалася як шлях да поспеху.

Варта адзначыць, што сярод грузінаў сапраўды высокі ўзровень патрыятызму (або мне проста такія сустрэліся): маладыя людзі бачаць сябе ў Грузіі, хочуць там жыць і працаваць. Канешне, не ўсё так гладка наяве. Найперш моладзь турбуе высокі ўзровень беспрацоўя.

«Ёсць дзяржава, мы развіваемся. Але беспрацоўе — гэта сапраўды праблема ў нас, — распавядае студэнт Дзяржаўнага ўніверсітэта Іліі Бека Ліпартэліяні. — Вышэйшую адукацыю ў нас атрымліваюць многія. Можа быць, гэта спадчына ад савецкіх часоў. І з масавым атрыманнем дыпломаў ВНУ ёсць праблема, бо многа адукаваных людзей, але працы для ўсіх няма».



Дарэчы, гісторыя гэтага студэнта вельмі цікавая. Яго сям'я жыла ў Расіі ў горадзе Іванава. Бацька нават падаваў дакументы на атрыманне грамадзянства, але ў выніку яны вярнуліся на радзіму. І, відавочна, псіхалагічны камфорт тут куды вышэйшы.

«Я не адчуваў там сябе сваім, хаця вырас у Расіі, быў свой асяродак. Але гэтая фраза ў аб'яве: «Здаецца толькі для рускіх»... — прызнаецца Бека.

Бека гаворыць, што хацеў бы працаваць у сферы, дзе будзе запатрабаваная яго добрая руская мова. Напрыклад, перакладчыкам ці ў турызме. Жаданне працаваць у турыстычнай галіне выказвалі і іншыя мае суразмоўцы.

## Ведаць англійскую

Цікавым пунктам у рэформах грузінскай адукацыі ёсць пашырэнне англійскай мовы.

«Змянілі ўсе падручнікі па англійскай мове на брытанскія, увялі вывучэнне англійскай мовы з першага класа. Уклалі вялікія грошы на перападрыхтоўку настаўнікаў. Да нас прыязджалі 1,5 тысячы носьбітаў англійскай мовы з ЗША і Еўропы. Яны працавалі ў пары з нашымі настаўнікамі ў школах. Англійская мова для самаадукацыі — гэта вялізны рэсурс, вялікая магчымасць для поспеху», — расказвае Дзмітрый Шашкін.

Планавалася, што з 2015 года, каб атрымаць дыплом ВНУ, трэба было здаць іспыт на веданне англійскай мовы ўзроўню B2. Але ўрад змяніўся, і гэты намер не ўвасобіўся ў рэчаіснасць.

«Рабіць акцэнт на англійскую мову я лічу слушнай пазіцыяй, — мяркуе педагог, намесніца старшыні Таварыства беларускай школы Тамара Мацкевіч. — Асабліва гэта тычыцца ўніверсітэтаў, бо англійская цяпер — мова навукі. Праўда, грузінскі досвед паказаў, што не варта цалкам пераводзіць навучанне на англійскую мову, бо іх грамадзяне мусяць думаць па-грузінску, мысліць катэгорыямі сваёй краіны. Думаю, Беларусь таксама зробіць падобныя пераўтварэнні, як толькі ў нас зменіцца кіраўніцтва ў Міністэрстве адукацыі. З постсавецкіх краін я б арыентавалася на рэформы ў сферы адукацыі дзвюх краін — Эстоніі і Грузіі, бо яны паказалі найбольшы прагрэс у гэтай сферы».

Цяпер каманда, што займалася рэформамі ў адукацыі Грузіі, рыхтуе вялікі стратэгічны план развіцця адукацыйнай сферы на 10 гадоў.

**Матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы MYMEDIA/DANIDA**

TV

## 19 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладраматычны серыял «На шляху да сэрца» (Расія). 2-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладрама «Шчасліўчык Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Фантастычны баявік «Людзі Ікс-2» (Канада-ЗША).
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Камедыйны серыял «Сваты-4».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жорсткі раманс».
**14.10** «Вучыцца жыць».
**14.40** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Вяртанне высокага бландына». Мастацкі фільм.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Чорна-белае».
**22.10** Голас.
**00.35** «Вячэрні Мінск».
**01.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Добры дзень, доктар».
**09.35** «Далёкія сваякі».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Лязо ведзьмаў» (ЗША, 2000 г.).
**15.40** «Татальны распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** СТВ прадстаўляе: Фінал Цэнтральнай Міжнароднай лігі КВЗ.
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**00.15** Фільм «Тры каралі» (ЗША - Аўстралія, 1999 г.).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка» (Украіна).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Капейка ў капейку.
**11.25** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» Вялікабрытанія.
**12.40** «Турыст».
**13.25** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.35** Сямейная камедыя «Дружба народаў».
**15.40** Вось дык так!
**16.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.55** Фантастычны баявік «Драпежнікі».
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**23.10** Рэпарцёр.
**00.05** Псіхалагічная драма «Блізкасць» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размовы пра духоўнае». Дзень памяці свяціцеля Мікалая Цудатворца.
**08.25** «Трэст, які лопнуў». Музычная камедыя. 1-я серыя (СССР, 1982 г.).
**09.25** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**09.55** «Трэст, які лопнуў». Музычная камедыя. 2 і 3-я серыі (СССР, 1982 г.).
**12.05** «Персона». Вікторыя Тарасава.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Размовы пра духоўнае». Дзень памяці свяціцеля Мікалая Цудатворца.
**12.45** «Сіла веры».
**13.10** «Аўтограф». Ансамбль беларускай песні «Церніца» Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.
**13.35** «Казка пра цара Салтана». Мультфільм.
**14.30** «Музеі Беларусі». Музей гісторыі слуцкіх паясоў.
**14.55** «Зімні дуб». Кароткаметражны фільм (СССР, 1986 г.).
**15.15** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**15.40** «Людзі на балоце. Палеская хроніка». Драма. 3-я серыя (СССР, 1984 г.).
**16.50** «Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**17.25** Музыка Георгія Свірыдава. Вакальныя цыклы, рамансы, харавыя мініяцюры, музычныя ілюстрацыі да аповесці А.С.Пушкіна «Мяцеліца».
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.05** «Размовы пра духоўнае». Дзень памяці свяціцеля Мікалая Цудатворца.
**19.15** «Набліжэнне». Сацыяльная прытча (Грузія, 1989 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Цырымонія». Псіхалагічная драма (Францыя, Германія, 1995 г.).
**22.50** «Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**23.30** «Камертон». Міхаіл Піятроўскі.
**23.55** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Авертайм.
**08.30** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Чырвоны Кастрычнік» - «Цмокі Мінск».
**10.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Спрынт. Жанчыны.
**12.00** Гандбол. SEHA-ліга. «Татран» (Славакія) - БГК ім. Мяшкова (Беларусь).
**13.30** Хакей. КХЛ. «Віцязь» (Маскоўская вобл.) - «Дынама» (Мінск).
**15.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Рома» (Італія) - «Манчэстар Сіці» (Англія).
**17.10** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**17.40** Піт-стоп.
**18.10** Хакей. Ароса Чэлендж. Славакія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**20.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Спрынт. Мужчыны.
**22.05** Чэмпіянат свету па кікбоксінгу.
**00.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Два на два: Алена Бузюк і Аліна Ваўранюк: Беларускае школьніцтва за мяжою.
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Рэпартэр.
**10.40** Відзьмо-невідзьмо.
**11.10** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 2.
**12.10** «Рэвалюцыя он-лайн», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**12.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.05** Два на два: Алена Бузюк і Аліна Ваўранюк: Беларускае школьніцтва за мяжою.
**13.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.10** Аб'ектыў.
**14.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.55** Рэпартэр.
**16.25** Відзьмо-невідзьмо.
**16.50** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 2.
**17.50** «Рэвалюцыя он-лайн», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**18.15** Гісторыя пад знакам Пагоні: Вацлаў Ластоўскі.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Моўнік (лінгвістычная праграма): Ці варта крыўдаваць за віцябляніна?
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Dэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** ПраСвет.
**22.20** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 2.
**23.10** «Райская яблыня», маст. фільм, 1985 г.
**00.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.40** Моўнік (лінгвістычная праграма): Ці варта крыўдаваць за віцябляніна?
**01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.25** Аб'ектыў.

## 20 СНЕЖНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Існасць.
**07.10** Меладрама «Палюбоўнікі» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.25** БеларусьLIFE.
**13.50** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў.
**17.20** Меладрама «Пацалунак лёсу» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Драма «У Парыж!» (Расія).
**00.15** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).
**01.15** Дзень спорту.
**01.25** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**13.00** «Ералаш».
**13.15** «Валянціна Талкунова». «Ты за каханне прабач мяне».
**14.15** «У наш час».
**15.10** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.45** «100 мільёнаў».
**18.55** Нацыянальная музычная прэмія «Ліра».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечары».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?».
**00.20** «Няўдачлівыя». Мастацкі фільм.

### ТВ

**06.05** «Студэнты 2». Серыял.
**07.40** «Анфас».
**07.55** Фільм «Насця» (Расія, 1993 г.).
**09.30** «Чысты праца».
**10.30** «Далёкія сваякі».
**10.55** «Гэта мой дом».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** Фільм «Піраты ХХ стагоддзя» (СССР, 1979).
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** «Дакументальны спецпраект».
**18.25** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** Фільм «Адплата» (ЗША - Вялікабрытанія, 2010 г.).
**22.20** «Зорны рынг. Бітва хітоў».
**23.35** Фільм «Вясёлыя і загарэлыя» (Францыя, 2006 г.).
**01.10** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.40** Мастацкі фільм «Ледзяная ўнучка» (СССР).
**07.55** Толькі для дарослых.
**08.15** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар: Легенда пра Аангу» (ЗША).
**09.10** Беларуская кухня.
**09.50** Тэлебарометр.
**09.55** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**11.30** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў Расія.
**13.10** Біятлон. Этап Кубка свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.05** Капейка ў капейку.
**14.45** Вось дык так!
**15.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.20** «Comedy Баттл». Без межаў «Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**17.25** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**18.30** Ікра.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** «Сустрэча з..».
**20.40** Кіпень.
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.00** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Набліжэнне». Сацыяльная прытча (Грузія, 1989 г.).
**09.40** «Камертон». Міхаіл Піятроўскі.
**10.05** «Адступнік. Валерый Рубінчык». Дакументальны фільм пра творчы шлях рэжысёра.
**10.25** «Вянок санетаў». Ваенная драма (СССР, 1976 г.).
**11.50** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Падарожжа мсье Перышона». Музычная камедыя (СССР, 1986 г.).
**13.45** «Пані Мяцеліца». Фільм-казка (Германія, 1963 г.).
**14.45** «Калейдаскоп».
**14.55** «Музеі Беларусі». Музей гісторыі Мінска.
**15.20** «Без эпітафіі». Дакументальны аб трагічным лёсе пісьменніка і грамадскага дзеяча Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага).
**16.10** «Вінт». Кароткаметражны фільм (СССР).
**16.30** Шлягеры на ўсе часы. «Джаз і класіка». Канцэрт Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.
**17.45** Дыя@блог P.S.
**18.15** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 24-я - 26-я серыі, закл. (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Рыцар без даспехаў». Гістарычная драма (Вялікабрытанія, 1937 г.).
**22.55** Прэм'ера. «Афганістан. Я памятаю». Дакументальны фільм пра беларускіх ветэранаў Афганскай вайны.
**23.45** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Фактар сілы.
**08.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Спрынт. Мужчыны.
**10.10** Піт-стоп.
**10.40** Хакей. Ароса Чэлендж. Славакія - Беларусь.
**13.35** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**13.10** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Барыс» (Астана).
**15.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**15.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Сіці» - «Крыстал Пэлас». Прамая трансляцыя.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Астан Віла» - «Манчэстар Юнайтэд». Прамая трансляцыя.
**20.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Эвертан».
**22.00** Хакей. Ароса Чэлендж.
**23.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Гонка пераследу. Мужчыны.
**00.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Гонка пераследу. Жанчыны.
**01.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Ці варта крыўдаваць за віцябляніна?
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.50** «Польскія казкі і паданні».
**11.05** «Вынаходлівы Дабрамір», мультсерыял.
**11.25** «Лонданцы II», серыял.
**12.10** «Час гонару», серыял.
**12.55** Без рэтушы: «Непамілаваны», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**13.20** Два на два: Алена Бузюк і Аліна Ваўранюк: Беларускае школьніцтва за мяжою.
**13.50** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Джамбібум».
**14.20** Асабісты капітал.
**14.40** ПраСвет.
**15.20** «Райская яблыня», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**17.00** Моўнік: Саపернік ці супернік?
**17.10** Рэпартэр.
**17.40** Беларусы ў Польшчы.
**17.55** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 2.
**18.55** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**19.40** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 2.
**20.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** «Зоська Верас», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**21.50** Суботні сеанс: «Гэта я, злодзей», дэтэктыўная драма, 2000 г., Польшча.
**23.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**00.20** Аб'ектыў.
**00.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

TV

## 21 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.45** Драма «У Парыж!» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Xxl woman tv. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Таямніцы следства.
**13.50** Каробка перадач.
**14.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.50, 22.15** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.55** Я магу!
**17.15** Крымінальная меладрама «Я падарую сабе цуд» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**19.05** Меладрама «Я шчаслівая» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.25** Меладрама «Палюбоўнікі» (Расія).
**00.25** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Брэйн-рынг».
**12.40** «Легенды Live».
**14.20** Я люблю Беларусь.
**15.10** «Здабытак Рэспублікі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Здабытак Рэспублікі».
**17.30** КВЗ. Вышэйшая ліга. Фінал.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледніковы перыяд».
**22.00** Міс Свету-2014.
**23.50** «« Што? Дзе? калі?».

### СТВ

**06.00** «Студэнты-2». Серыял.
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** Фільм «Адплата» (ЗША - Вялікабрытанія, 2010 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.45** «Тэрыторыя памылак».
**12.25** «Добры дзень, доктар».
**13.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.00** Фільм «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР, 1968 г.).
**15.35** «Глядзець усім!».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Сіроп» (ЗША, 2011 г.).
**22.25** «Пякельная кухня-2».
**23.50** Фільм «Я абʼяўляю вайну» (Францыя, 2011 г.).
**01.30** «Вялікія таямніцы».

### Беларусь 2

**07.00** Вышэй за дах.
**07.25** Калядная сямейная камедыя «Санта Клаўс» (ЗША).
**09.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**10.20** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.00** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.35** Тэлебарометр.
**11.40** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). Заключныя серыі.
**13.25** Біятлон. Этап кубка свету. Масстарт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.25** Камедыйная-прыгодніцкі серыял «Мама-дэтэктыў» (Расія).
**15.25** Біятлон. Этап кубка свету. Масстарт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.25** Я хачу гэта ўбачыць!
**17.00** Баявік «Драпежнікі» (ЗША).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.20** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія). Заключныя серыі.
**23.00** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**23.45** Псіхалагічная драма «Блізкасць» (ЗША).
**01.25** «Сустрэча з...».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10, 13.00, 15.25** «Галасы з мінулага». 80 год з дня нараджэннння народнага пісьменніка Беларусі Івана Гаўрылавіча Чыгрынава.
**08.20** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 24-я - 26-я серыі, (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**10.50** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Кацярына Варкалава.
**11.30** «Наперад у мінулае».
**11.55** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.45** «Калейдаскоп».
**13.05** «Афганістан. Я памятаю». Дак. фільм пра беларускіх ветэранаў Афганскай вайны.
**14.00** «Дзелавыя людзі». Герой капіталістычнай працы.
**14.20** «Свінг белых начэй». Гала-канцэрт Пецярбургскага фестывалю джазу.
**15.15** «Калейдаскоп».
**15.35** «Старыя казкі». Гісторыя стварэннння фільма «Не пакідай..».
**16.00** «Не пакідай…». Дзіцячы музычны фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1989 г.).
**18.25** «Культпрасвет».
**18.55** «Цырымонія». Псіхалагічная драма.
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Музычнае прынашэнне настаўніку». Да 90-годдзя прафесара Міхаіла Солапава.
**22.15** «Культпрасвет».
**22.50** «Чалавек з мядзвежым тварам». Спектакль па п'есе Івана Чыгрынава.
**00.35** «Калейдаскоп».
**00.50** «Галасы з мінулага». 80 год з дня нараджэннння народнага пісьменніка Беларусі Івана Гаўрылавіча Чыгрынава.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Астан Віла» - «Манчэстар Юнайтэд».
**09.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Гонка пераследу. Мужчыны.
**10.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Гонка пераследу. Жанчыны.
**11.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Астана» - Цмокі-Мінск. Прамая трансляцыя.
**13.55** Хакей. Ароса Чэлендж.
**15.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**16.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ньюкасл» - «Сандэрлэнд». Прамая трансляцыя.
**18.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ліверпуль» - «Арсенал». Прамая трансляцыя.
**20.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Масстарт. Жанчыны.
**21.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Масстарт. Мужчыны.
**22.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Астана» - Цмокі-Мінск.
**00.30** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет.
**07.45** «Польскія казкі і паданні».
**08.00** «Вынаходлівы Дабрамір», мультсерыял.
**08.25** «Ажыятаж вакол Басі», серыял.
**08.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.15** Два на два (тэледыскусія): Алена Бузюк і Аліна Ваўранюк: Беларускае школьніцтва за мяжою.
**09.45** Беларусы ў Польшчы.
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.30** «Польскія казкі і паданні».
**10.45** «Чатыры бакі казак», мультсерыял.
**11.00** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**11.45** «Час гонару», серыял.
**12.35** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 2.
**13.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**13.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Сапернік ці супернік?
**13.55** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.20** 54 % (публіцыстычная праграма).
**14.45** Два на два (тэледыскусія): Алена Бузюк і Аліна Ваўранюк: Беларускае школьніцтва за мяжою.
**15.15** «Рэвалюцыя он-лайн», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**15.40** «Гэта я, злодзей», дэтэктыўная драма, 2000 г., Польшча.
**17.20** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**17.55** «Зоська Верас», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**18.35** «Ранча», серыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): «Наша Доля» і «Наша Ніва».
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Дзікія гады», дак. фільм, 2013 г., Іспанія–Эфіопія.
**21.40** Фільматэка майстроў: «Нанэрль Моцарт», маст. фільм, 2010 г., Францыя.
**23.40** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 2.
**00.40** «Необъявленная война. Записки документалиста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 2.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Што засталося ад Будапешта?

Алег НОВІКАЎ

**Ад Будапешцкага мемарандума, падпісанага 20 гадоў таму, мала што засталося.**



Паводле падпісанага 5 снежня 1994 года Будапешцкага мемарандума, Расія, ЗША і Францыя абавязаліся гарантаваць суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць Украіны, Беларусі і Казахстана ў абмен на адмову згаданых дзяржаў ад ядзернай зброі. Сярод абавязкаў вялікіх дзяржаў таксама прысутнічаў пункт — адмова ад пагрозы сілай і яе ўжывання супраць тэрытарыяльнай цэласнасці і палітычнай незалежнасці новых незалежных дзяржаў.

Доўгі час у Кіеве, Мінску і Астане насіліся з тэкстам мемарандума як галоўнай гарантыяй свайго суверэнітэту. Аднак падзеі ў Крыме і Данбасе паказалі, што напісанае мала адпавядае рэальнасці. Захад абсалютна не спяшаецца аказаць Украіне дапамогу у тых маштабах, што гарантаваў мемарандум. Ну а статус Расіі як гаранта суверэнітэту краін СНД пасля захопу Крыма, а затым падтрымкі сепаратыстаў у Данбаскай і Луганскай абласцях выклікае горкую ўсмешку.

Ёсць версія, што якраз Кіеў першы парушыў мемарандум. На думку шэрагу крымскіх палітыкаў, на момант падпісання мемарандума суверэнітэт Украіны, быццам, не распаўсюджваўся на Крым і Севастопаль. Паводле арт.1 Канстытуцыі Рэспублікі Крым ад 6 мая 1992 года, Рэспубліка Крым ажыццяўляе суверэнныя правы і ўсю паўнату ўлады на сваёй тэрыторыі. Паколькі Кіеў, на думку крымчан, у 1995 годзе цалкам падпарадкаваў Крым, то бок парушыў існаваўшыя на снежань 1994-га межы, якія абяцаў паважаць, менавіта ён з'яўляецца агрэсарам. На такой штучна сканструяванай аснове Сімферопаль і патрабуе цяпер ад Парашэнкі кампенсацыі за анексію паўвострава і эксплуатацыю яго рэсурсаў за 20 гадоў.

Не менш арыгінальнай выглядае і пазіцыя ўкраінскіх правых. Яны лічаць, што падпісаны 20 гадоў таму пакт быў гістарычнай памылкай, і нават трагедыяй. Савік Шустэр прысвяціў ледзь не палову сваёй праграмы юбілею Будапешта, для чаго быў запрошаны экс-прэзідэнт Леанід Краўчук. (Хаця дамову падпісаў Леанід Кучма, лічыцца, што менавіта пры Краўчуку адбыліся фінальныя кансультацыі па яе канчатковай версіі).

Леаніда Макаравіча сустрэлі ў студыі не вельмі ветліва. Прысутныя радыкалы абвінавацілі яго ў тым, што экс-гарант фактычна падклаў міну запаволенага дзеяння пад украінскі суверэнітэт, пагадзіўшыся ў 1994 годзе на вывад атамнай зброі. Логіка простая — прысутнасць атамнай зброі магла ацвярэзіць гаспадароў Крамля ад іх планаў захопу Крыму.

У адказ Краўчук давёў, што ў яго папросту не было іншага выхаду. Па-першае, ядзерны арсенал, што застаўся ва Украіне, трэба было неяк тэхнічна ўтрымліваць. Сродкаў і кадраў на гэта ў маладой дзяржавы не было. Па-другое, у 1994 годзе адбыўся ці не выключны выпадак у гісторыі, калі інтарэсы Злучаных Штатаў і Расіі раптам супалі. Кіеў не мог супрацьстаяць дыктату вялікіх дзяржаў, якіх у дадатак падтрымалі Пекін і Парыж.

Большасць украінскіх палітолагаў лічаць, што мемарандум — гэта пустышка. Адзін з удзельнікаў праграмы Шустэра — былы ўкраінскі дыпламат, узгадаў забаўную гісторыю. Быццам, у кулуарах будапешцкага саміту Леанід Кучма выпадкова сустрэў французскага прэзідэнта Франсуа Мітэрана, і той, адвёўшы ўкраінскага калегу ў бок, сказаў: «Нікому не верце. Яны (заходнія палітыкі і рускія) вас падмануць».

Але, некаторыя палітыкі на берагах Дняпра не губляюць надзеі на тое, што дух Будапешцкай дамовы яшчэ можна адрадзіць. Першы прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук нагадаў, што Будапешцкі мемарандум утрымлівае пункт, які дазваляе Кіеву склікаць міжнародную канферэнцыю адносна выканання абавязанняў краінамі-гарантамі. З іншага боку, наўрад ці на такую сустрэчу пагодзіцца Масква, без удзелу якой падобная канферэнцыя не будзе легітымнай.

Што тычыцца Расіі, дык яе МЗС клянецца ў вернасці мемарандуму. Праўда, з маленькай папраўкай. Лаўроў кажа, што сутнасць дамовы на Захадзе разумеюць некарэктна. «Гэтыя гарантыі (прадстаўленыя Украіне ў 1994 годзе), па-першае, прадугледжваюць абавязкі ядзерных дзяржаў не ўжываць ядзерную зброю ў дачыненні да дзяржавы, якой такія гарантыі даюцца». Гэта значыць, што сітуацыя ў Данбасе не ўпісваецца ў рамкі дакумента. Акрамя таго, як сказаў Лаўроў, Будапешцкі мемарандум прадугледжвае абавязак «паважаць суверэнітэт, тэрытарыяльную цэласнасць, палітычную незалежнасць Украіны», але «там няма абавязкаў прызнаваць вынікі ўзброеных дзяржаўных пераваротаў».

Варыянт, прапанаваны Лаўровым, яшчэ не самы горшы. Большасць расійскіх праўладных каментатараў увогуле заклікаюць дэнансаваць той мемарандум, які тармозіць праект адраджэння імперыі.

Напрыклад, вядомы публіцыст Эдуард Лімонаў піша: «Пра Будапешцкі мемарандум. Яго падпісаў п'яны ў хлам Ельцын. Аднак, каб нас больш не тыкалі ў гэты мемарандум носам, варта вельмі хутка, чым хутчэй, тым лепш, зрабіць наступнае. Дэнансаваць спачатку асобу Ельцына. Тры-чатыры тэлестужкі на федэральных каналах з п'яным ЕБН, у прайм-тайм (і паўтараць, паўтараць...). Потым заява ў Дзярждуму, ва ўрад, дзейснаму прэзідэнту аб факце беспрапыннага п'янства Ельцына. Услед за дэнансацыяй асобы Ельцына варта дэнансаваць Белавежскую змову. А затым Будапешцкі мемарандум. Пасля гэтага і фраў Меркель, і іншым заходнім экстрэмістам можна адказваць прамым тэкстам: «Гэта Ельцын вам штосьці гарантаваў. Мы дэнансавалі падпісаныя ім у прыступах белай гарачкі дакументы. Мы вам нічога не гарантуем».

Прозвішча Меркель тут згадана невыпадкова. Літаральна напярэдадні юбілею Будапешту нямецкі канцлер у інтэрв'ю газеце «Die Welt» заявіла: «Расія парушыла гарантыі тэрытарыяльнай цэласнасці і суверэнітэту Украіны, юрыдычна замацаваныя Будапешцкім мемарандумам 1994 года, і гэта не можа заставацца без наступстваў». Гэтая частка інтэрв'ю Меркель раз'юшыў расійскую эліту.

Што тычыцца Казахстана, то тут адзінай думкі няма. Шэраг палітолагаў кажуць, што парушэнне Будапешцкага мемарандума нясе значныя рызыкі для Казахстана, які зараз не можа быць упэўнены ў тым, што Масква будзе прытрымлівацца падпісаных ёю дамоў. Перш за ўсё, узнікае пагроза агрэсіі на поўначы краіны, дзе шмат рускамоўных.

Аднак ёсць і іншы падыход. «У выпадку з Казахстанам падобныя падзеі (анексія часткі тэрыторыі з боку Расіі) немагчымыя, у сілу больш цесных эканамічных, палітычных і гуманітарных адносін. Да таго ж Казахстан усе апошнія гады праводзіць адну ўзважаную лінію, без зігзагаў у розныя бакі, як гэта было ў выпадку з Кіевам. А непаслядоўнасць курсу ў нестабільнай краіне заўсёды прыводзіць да хаосу», — кажа палітолаг Данияр Ашымбаеў.

Як бачым, адзінага падыходу да магчымых наступстваў парушэння дамовы ад 5 снежня 1994 года няма. Няма нават адзінай трактоўкі дакументу, што дазваляе кожнаму падпісанту прапаноўваць свае версіі, апраўдваючы імі свае ўчынкі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Харчовы канфлікт Беларусі і Расіі толькі разгараецца, нягледзячы на запэўніванні аб яго хуткім вырашэнні. На беларуска-расійскім участку мяжы з абодвух бакоў аднаўлены кантроль. Рассельгаснагляд абвінавачвае Беларусь у незаконным рээкспарце з ЕС. Мінск жа заяўляе, што забаронай на ўвоз прадуктаў харчавання з беларускай тэрыторыі Масква парушае дамоўленасці ў рамках Мытнага саюза (МС). На думку апытаных «Deutsche Welle» экспертаў, харчовая вайна напярэдадні ўступлення ў дзеянне Еўразійскага эканамічнага саюза сведчыць аб сур'ёзных супярэчнасцях саюзнікаў па інтэграцыі, якія толькі абвастрыла эмбарга Расіі на прадукцыю ЕС.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

За дзесяць гадоў колькасць рускіх у Беларусі зменшылася з 1 200 000 да 800 000. Куды яны дзеліся? Старыя паміраюць, моладзь, пры атрыманні ідэнтыфікацыйнага нумару, запісваюць беларусамі. У школах выцясняюць рускую мову — пакуль на ўроках гісторыі і геаграфіі. Новыя надпісы ў мінскім метро, расцяжкі, абвесткі аб пачатку кінафестывалю «Лістапад», выкананы ўжо толькі па-беларуску і па-англійску. Беларуская інтэлігенцыя звяртаецца да Лукашэнкі з просьбай перавесці выкладанне ў ВНУ на беларускую мову, і ён не кажа катэгарычнае «не». Фарміраванне беларускай нацыі ўсяляк прышпорваюць. Так, тут, у адрозненне ад Украіны, прызвычаіліся не пароць гарачку, але вектар руху відавочны. Беларусаў можна зразумець: у іх свая праўда і свой інтарэс. Але якая праўда і які інтарэс у Расіі і рускіх?

**«Литературная газета» (Расія)**

Адносіны Лукашэнкі і Пуціна заўсёды былі не вельмі. З Пуціным яны адзін аднаму адразу не спадабаліся ў сілу аб'ектыўных прычын. Цяпер Лукашэнка, на мой погляд, моцна баіцца Пуціна, асцерагаецца, што амбіцыі Крамля распаўсюдзяцца на яго дзяржаву. Цяпер ён, відома, хацеў бы актывізаваць сваю ролю ва Усходнім партнёрстве. Але тут ён разрываецца паміж жаданнем абараніць сябе ад Расіі, якая лічыцца галоўнай небяспекай, і жаданнем не здаваць ні найменшай часткі сваёй улады, чаго патрабуе Еўропа.

**«Delfi» (Літва)**

Беларусь — гэта не Арменія, якую Масква можа схіліць у любы бок. І справа тут зусім не ў выключным таленце або «жалезнай волі» Лукашэнкі. Дастаткова ўважліва паглядзець на карту, каб пераканацца, наколькі рознае ў нас з Беларуссю становішча. Акрамя Расіі, гэтая краіна мяжуе з Польшчай, Украінай і Латвіяй. Беларусь, такім чынам, з'яўляецца еўрапейскай краінай не «менталітэтам» (што яшчэ пад сумневам), але геаграфічна, і яна з трох бакоў акружаная «нядобразычлівцамі» Расіі, з якімі яна не схільная псаваць адносіны, тым больш эканамічныя. Гэтая краіна таксама мае магчымасць і ў палітычным сэнсе «схіліцца» ў накірунку гэтых краін. Лукашэнка патрабуе ад Пуціна заплаціць вельмі высокую цану за сваю «несхільнасць». І запатрабуе заплаціць яшчэ больш. Іншае пытанне, ці будзе Пуцін ці яго пераемнік гатовы пастаянна плаціць гэты кошт. Мне здаецца, — не.

**«Аровот» (Арменія)**

Мясцовыя незалежныя эканамісты ўсе 20 гадоў кіравання Аляксандра Лукашэнкі кажуць аб тым, што нельга захоўваць савецкую структуру эканомікі, у якой Беларусь — зборачны цэх РФ, што небяспечна «класці яйкі ў адзін кошык», гэта значыць пастаўляць 90% прадукцыі толькі на расійскі рынак. Папярэджвалі мясцовыя аналітыкі і пра пагрозу, якая зыходзіць ад Мытнага саюза. Беларускія вытворцы казалі, што ў тых жорсткіх каманднa-адміністрацыйных умовах, у якіх яны працуюць, не вытрымаюць канкурэнцыі нават з боку расійскіх калегаў, якія знаходзяцца ў больш ліберальных умовах, што ўжо казаць пра канкурэнцыю з сусветнымі брэндамі, якія небяспечныя нават для расіян. Цяперашнія праблемы бліжэйшай саюзніцы, звязаныя з узаемнымі санкцыямі, імклівым зніжэннем кошту нафты, падзеннем рубля, сітуацыю яшчэ больш пагоршылі.

**«Независимая Газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Фільм пра Назарбаева праваліўся

4 снежня, у Дзень прэзідэнта, на экраны казахскіх кінатэатраў выйшла чарговая серыя кінабіяграфіі Назарбаева. Гэта ўжо 4-ы эпізод сагі, у якой распавядаецца пра дзейнасць Нурсултана на пасадзе кіраўніка партыйнай арганізацыі на адным з заводаў Караганды. Натуральна, галоўны персанаж выглядае сапраўдным абаронцам простага народа, гатовым ісці на канфлікт нават з вышэйшым кіраўніцтвам КПСС. Аднак значна большы інтарэс у грамадстве выклікаў не фільм, а яго татальны правал у кінапракаце. Як піша прэса, у сярэднім на карціну ходзяць 4–6 чалавек. У некаторых кінатэатрах увогуле не было прададзена ніводнага білета. Усе гэта выглядае абсалютна кантрастна на фоне таго фурору, які выклікаў фільм у мінулым годзе, калі залы проста ламіліся ад гледачоў. Натуральна, мастацкі якасці карціны тут не пры чым. Проста год таму ў бюджэтныя арганізацыі была спушчаная разнарадка, а ў гэтым годзе чыноўнікі чамусьці забыліся прымусова мабілізаваць аўдыторыю на паход у кіно.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Дзяржава пад Радзівілаў

Польскія гісторыкі зрабілі сапраўдную сенсацыю. Імі знойдзены план падзела Польшчы вялікімі дзяржавамі. Гутарка не пра падзелы канца XVIII стагоддзя высілкамі Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Аказваецца, на сто гадоў раней, у 1659-м, шведскі кароль, курфюрст Прусіі і князь Сяміградскі падпісалі дамову аб падзеле Рэчы Паспалітай на зоны ўплываў. Цікава, што ў змову збіраліся ўключыць таксама Багдана Хмяльніцкага — лідара тагачаснага ўкраінскага паўстання. Але самае цікавае, што дамова прадугледжвала стварэнне асобнай дзяржаўнай структуры пад славутую беларускую дынастыю Радзівілаў. Князь Багуслаў Радзівіл, які падтрымаў змову, павінен быў атрымаць навагрудскае ваяводства. У выніку, праўда, у падпісантаў трактату нічога не атрымалася. Пагроза падзелаў знікла, аднак толькі на сто гадоў. У 1772 годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай.

**Паводле польскай прэсы**

### ТУРЦЫЯ. Вяртанне арабскага алфавіта

Прэзідэнт Турцыі Таіп Эрдаган выказаўся наконт магчымага вяртання арабскага алфавіта ў турэцкую мову. «Гэта не замежная мова, а частка турэцкай спадчыны», — лічыць турэцкі гарант. Хаця арабскую вязь, па яго словах, будуць вывучаць выключна студэнты гуманітарных курсаў ВНУ, грамадства ўспрымае гэту акцыю як вельмі радыкальную рэвізію запаветаў Атацюрка. Першы прэзідэнт Турцыі лічыў, што забарона арабскага алфавіту (яна мела месца ў 1928 годзе) — адзін з самых важных крокаў на шляху вестэрнізацыі Турцыі. Выкарыстанне арабскага алфавіту пасля 1928 года стала крамолай. Ідэя Эрдагана, на думку палітолагаў, можа азначаць спробу паступовай ісламізацыі. Крытыкі Эрдагана ўжо заклікалі студэнтаў да байкоту заняткаў, на якіх будзе вывучацца арабскі алфавіт.

**Паводле брытанскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Крызіс партыі «Мусават»




Партыя «Мусават» — вядучая партыя азербайджанскай апазіцыі нацыянал-дэмакратычнага накірунку, перажывае цяжкія часы. 27 верасня на з'ездзе новым лідарам партыі быў абраны Арыф Гаджылы. Пасля з'езду шэраг незадаволеных чальцоў «Мусават» заявілі пра фальсіфікацыю вынікаў выбараў, а таксама пра неабходнасць правядзення пазачарговага з'езду. Канфрантацыя працягваецца да сёння. Не так даўно незадаволеныя новым кіраўніцтвам «Мусават» сябры партыі абвясцілі пра стварэнне новай структуры — руху «Дэмакратыя і дабрабыт Азербайджана». Але гэта яшчэ не ўсё. Стала вядома, што моладзь з шэрагаў «Мусават» таксама плануе стварыць новую партыю. Для ўсіх азербайджанскіх дэмакратаў крызіс «Мусават» глыбока сімвалічны. Вядома, што «Мусават» стаяў у вытокаў азербайджанскай незалежнасці ў 1918 годзе.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

# Дыктатарская кулінарыя

Алег НОВІКАЎ

**Адбыўся прарыў у такой незвычайнай сферы, як даследаванне ладу жыцця дыктатараў. У Англіі пабачыла свет кніга «Абеды дыктатараў: дрэнны густ, або Як забаўляць тыранаў».**



**У гэтай кнізе, дзе частка гісторыі, а частка кулінарыі, расказваецца пра любімыя стравы дыктатараў XX стагоддзя**

Аўтары кнігі — Вікторыя Кларк (Victoria Clark) і Меліса Скот (Melissa Scott) намагаюцца даследаваць такое незвычайнае пытанне, як гастранамічныя густы дыктатараў. Праблема толькі на першы погляд падаецца несур'ёзнай. Як кажа папулярная народная прымаўка: «Мы — тое, што мы ядзім». Іншымі словамі, характар ежы вельмі часта ўплывае не толькі на фізічныя здольнасці, аднак таксама на псіхіку і энергетыку асобы.

І не толькі адной асобы. Часта дыктатары за кошт ежы марылі змяніць людскія масы. Напрыклад, Гітлер лічыў, што бабы — гэта сапраўдная арыйская ежа, якая дазваляе целу набыць арыйскую чысціню. Адсюль яго захапленне вегетарыянствам. Гітлер не любіў мяса, якое, як ён прызнаваўся Гебельсу ў 1942 годзе, пасля вайны будзе забароненае. Сам Гітлер, як вядома, яшчэ да вайны адмовіўся ад мясных страў плюс у дадатак наняў сабе доктара Тэадора Морэла (Theodore Morrell), які адказваў за яго вегетарыянскі рацыён. Бедны фюрэр не ведаў, што звязаўся з шарлатанам. Морэл, які распрацаваў для Гітлера спецыяльную дыету з 28 блюдаў, умудрыўся падсунуць кліенту нават фекаліі балгарскіх сялян.

Як прызнаюць аўтары, дыктатары, як правіла, баяцца, што могуць стаць ахвярамі атручвання. Таму першае патрабаванне да дыктатарскіх меню — адмоўны тэст на наяўнасць рознага кшталту хіміі. У якасці перастрахоўкі лідар камуністычнай Югаславіі Іосіф Броз Ціта, напрыклад, піў выключна праз трубачку, каб у арганізм не трапілі цвёрдыя рэчывы. А Чаўшэску ўключыў у сваю ахову спецыяльнага афіцэра-хіміка, які падчас паездак з дапамогай мабільнай лабараторыі аналізаваў прадукты, што дастаўлялі да стала дыктатара.

З улікам сказанага, не дзіўна, што ў штаце каманды, якая абслугоўвае дыктатараў, запатрабаваныя прадстаўнікі такой незвычайнай прафесіі, як дэгустатар. У таго ж Гітлера дэпартамент дэгустатараў налічваў ажно 15 асоб. Дэгустатары ўжывалі стравы, што былі прыгатаваныя для кіраўніка Трэцяга рэйху, і пасля 45 хвілін чакалі, якая будзе рэакцыя арганізму. Калі ўсё было ў норме, стравы дазвалялася падаваць на стол фюрэра. Калі верыць аўтарам кнігі, за ўвесь час вайны гэты




складаны рытуал ніколі не быў парушаны.

Захаваліся ўспаміны адной з жанчын, якая працавала дэгустатарам фюрэра: «Паміж 11.00 і 12:00 мы павінны былі паспытаць ежу… уся ежа была вегетарыянскай — самыя смачныя свежыя рэчы. Там не было мяса, і я не памятаю ні адной рыбы».

Аўтары кніжкі таксама сцвярджаюць, што прафесія дэгустатара толькі падаецца лёгкай. На самай справе, тыраны — такія ж людзі, як усе, і час ад часу хвареюць. Натуральна, адказнасць за недамаганне часта падае на дэгустатараў. Шмат хто з іх заканчваў жыццё ў турме. Дакладна вядомы факт, калі ў 1988 годзе Садам Хусейн забіў прыдворнага дэгустатара.

Некаторыя дыктатары былі ўпэўненыя, што атруту можа прынесці госць. Таму, напрыклад, Чаўшэску, калі меў нейкі сумесны ланч, заўсёды патрабаваў, каб госць абавязкова дзяліў з ім трапезу.

А вось у КНДР ежу разглядалі як эліксір маладосці. Пры паўночна-карэйскім дыктатары Кім Чэн Іры працаваў цэлы інстытут ежы. Вучоныя, што працавалі ў той установе, ламалі галаву над пытаннем, як з дапамогай ежы працягнуць тэрмін жыцця правадыра. Праўда, вынік аказаўся адваротны: «любімы кіраўнік» памёр даволі рана.

Асобная тэма — персанальныя забабоны дыктатараў у кулінарыі. Нягледзячы на амаль каралеўскі лад жыцця, часам яны надавалі перавагу вельмі дзіўным стравам. Напрыклад, Ціта амаль штодня патрабаваў, каб яму прыносілі на стол вялікі кавалак свінога сала. Далікатэсам у сям'і Чаўшэску лічылася курынае рагу. Прычым чамусьці па патрабаванні дыктатара трэба было абавязкова рабіць рагу з цэлай курыцы. У ход ішлі нават лапы і дзюба.

Напэўна, такія капрызы былі неяк звязаныя з біяграфіяй палітыкаў. Так, партугальскі дыктатар Антоніа Салазар вельмі паважаў сардзіны. Шматлікія сучаснікі ўзгадваюць, як, накідваючыся на талерку з сардзінамі, ён ахвотна распавядаў эпізод з яго беднага дзяцінства, калі неяк яму давялося падзяліцца адной сардзінкай з братам.

А вось для Маа Цзэдуна ежа была сродкам зняць стрэс ад напружанай працы. Таму еў ён вельмі шмат. У выніку арганізм быў вымушаны перабудавацца на тое, каб хутка выводзіць прадукты спажывання. У адным з лістоў малады Маа прызнаваўся: «Я шмат ем, і з мяне шмат выходзіць». Неабходнасць шмат хадзіць у прыбіральню ледзь не каштавала Маа дыпламатычнага скандалу падчас яго візіту ў Маскву. Сталін вельмі падазрона глядзеў на рэгулярныя паходы свайго саюзніка ў клазет. У сваю чаргу, Маа быў вельмі незадаволены тым, што ў Крамлі няма звычайных сельскіх прыбіральняў а-ля шпакоўня.

Увогуле, праца дыктатара не вельмі пасуе страўнікава-кішачнай сістэме. У Мусаліні рэгулярна былі запоры. А Ціта вельмі часта ванітавала за сталом. Яму нават прыдумалі спецыяльную кішэню на рукаве, куды б ён мог вывяргаць змесціва свайго страўніка.

Натуральна, далей за ўсё ў палітызацыі ежы зайшоў самаабвешчаны імператар Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі Жан-Бедэль Бакаса. Ён ужываў у ежу апанентаў, як бы сімвалічна знішчаючы палітычную крамолу. Лічыцца, што на канібалізм пакутавалі таксама Ідзі Амін з Уганды і Францыска Нгуема з Экватарыяльнай Гвінеі.

На гэтым месцы кнігі аўтары адчуваюць сябе не вельмі ўтульна, паколькі ім давялося прыводзіць рэцэпты прыгатавання чалавека (захаваліся мемуары кухара Бакасы, які казаў, што фаршыраваў апазіцыянераў рысам). Таму напрыканцы кнігі Вікторыя і Меліса прапануюць чытачам лепш эксперыментаваць з грузінскім блюдам сацыві, якое вельмі любіў Сталін.



# Сакральная анексія Крыма

Алег НОВІКАЎ

**З паслання Пуціна парламенту расіяне нечакана даведаліся пра тое, што Крым мае для іх сакральны сэнс.**

«Для нашай краіны, для нашага народа гэта падзея мае асаблівае значэнне. Таму што ў Крыме жывуць нашы людзі і сама тэрыторыя стратэгічна важная. І менавіта тут знаходзіцца духоўны выток маналітнай, але шматаблічнай рускай нацыі і цэнтралізаванай расійскай дзяржавы. Бо менавіта тут, у старажытным Херсанэсе, або, як яго называлі, Корсуні, хрысціўся князь Уладзімір, а затым хрысціў усю Русь. ...І гэта дае нам усе падставы сказаць, што для Расіі Крым, старажытныя Корсунь, Херсанэс, Севастопаль маюць велізарнае цывілізацыйнае і сакральнае значэнне. Гэтак жа, як Храмавая гара ў Ерусаліме для тых, хто вызнае іслам або іудаізм», — заявіў Пуцін падчас прамовы перад расійскім парламентам.

Тое, што тэрытарыяльныя прэтэнзіі звязаныя з сакральнай традыцыяй, — нешта новае ў лексіцы расійскай улады. Таму не дзіўна, што разважанні Пуціна вельмі зацікавілі аўдыторыю.

Ура-патрыятычная фракцыя, натуральная, вітала такую трактоўку. Больш таго, пабачыла ў словах Пуціна сігнал да старту трансфармацыі расійскай дзяржаўнай мадэлі ў манархію. «Прэзідэнт правёў духоўную лінію паміж хрышчэннем Русі і «Крымскай вясной–2014», а таксама міжволі навёў на параўнанне сябе са святым князем. (...) З пачатку Рускай вясны пачалося міфалагічнае пераўтварэнне вобразу Пуціна, міфічнае стварэнне Уладзіміра Уладзіміравіча як героя, як правадыра, як духоўнага лідара. Гэта наша мара, мара аб дабрадзейным і верным гаспадары, якога мы жадаем бачыць на чале дзяржавы. Гэта нацыянальная мара, закладзеная ў генетычным архетыпе вялікага этнасу, — мара пра Уладзіміра Краснае Сонейка», — піша сайт «4власть».

Але крытыкаў сакральнай прыроды крымскай авантуры значна больш. Напрыклад, шмат хто заўважыў, што Пуцін у сваёй прамове апусціў той факт, што Уладзімір быў, як ні круці, кіеўскім князем. Адпаведна, Кіеў мае значна большыя правы на Херсанэс. Дысідэнт-пратадыякан Андрэй Кураеў у сувязі з гэтым адзначае: «Гісторыя — гэта не газаправод. Спроба правесці гістарычную лінію ад Херсанэса да Масквы, старанна абыходзячы Кіеў, занадта ўжо фантастычная. Роздумы над гэтым фрагментам паслання прэзідэнта ставяць мяне перад выбарам: або давядзецца лічыць, што прэзідэнцкія спічрайтары набраныя з бязнадзейных троечнікаў, ці ж прыйдзецца прыйсці да высновы аб тым, што гэтая экскурсія вялася для калгаснікаў». Пратадыякан таксама параўнаў спіч Пуціна з прамовай Мусаліні, які 9 мая 1936 года абвясціў аднаўленне рымскага свету», заявіўшы, што «Эфіопія з гэтага часу і назаўсёды належыць Італіі, якая зноў стала тым, чым яна была ў часы Юлія Цэзара, Актавіяна Аўгуста і Вергілія».

Неяк не вельмі пасуе пафасу Пуціна супярэчлівая гісторыя хрышчэння князя Уладзіміра. У блогасферы задаюць пытанне: ці ведае сам Пуцін гісторыю заваявання Корсуні войскам кіеўскага князя Уладзіміра? Як вядома, Уладзімір асадзіў горад і прымусіў гараджан здацца пасля таго, як перакрыў ім ваду. Пасля згвалціў дачку корсуньска князя на яго і княгіні вачах, а потым забіў іх.

Хрысціянскае хрышчэнне ён прыняў, толькі каб ажаніцца з дачкой візантыйскага імператара, прыстрашыўшы таго ў выпадку адмовы паходам на Канстанцінопаль. «Ну, калі вось такі гістарычны персанаж — сакральны выток духоўнасці для рускіх — тады што для іх зладзейства?» — піша блогер Рустэм Адагамаў.

Выкарыстанне Пуціным такой катэгорыі, як «сакральнасць», выклікае шмат у каго смех. «А разам з Корсунню і Херсанэсам яшчэ большы сакральны сэнс набудзе паромная пераправа ў Керчы. Увогуле, ці азначае сакральнасць Крыма як Храмавай Гары, што зараз мы будзем тысячу гадоў ваяваць за Крым з Украінай, як арабы з габрэямі за гэтую Гару?» — піша адзін з блогераў. Аматары жартаў тыражуюць версію пра тое, што ідэю пра сакральнасць Пуціну падказаў ніхто іншы, як сам «проффесор» Віктар Януковіч.

Таксама не зразумелая матывацыя апраўдання акупацыі якой-небудзь тэрыторыі фактам прысутнасці на гэтай тэрыторыі ў мінулым каго-небудзь з дынастыі Рурыкавічаў. «Сакральная думка павінна развівацца куды глыбей і ў больш патрэбным кірунку. Напрыклад, у кірунку Францыі. Ёсць такая сакральная рэч, як Ганна руская — дачка Яраслава Мудрага і каралева Францыі. Так што Францыя — спрадвечна руская зямля. Не можа быць нічога больш сакральнага для рускага чалавека, чым руская дачка рускага Яраслава на французскім троне», — іранізуе журналіст Аркадзь Бабчанка (дарэчы, Яраслаў Мудры быў сынам беларускай Рагнеды. — рэд.).

Смех смехам, аднак наўрад ці на гэтым усё закончыцца. Тэма пра святую Корсунь, на думку наглядальнікаў, ужо ў наступным годзе з'явіцца ў падручніках гісторыі. І гэтая ж тэма, у выпадку раскруткі, можа згуляць кепскі жарт з Пуціным. Як кажа гісторык Леў Лур'е ў каментары выданню «Росбалт»: «Русь наогул хрысцілася ў Кіеве. Цяпер высветлілася, што Русь пайшла з Корсуні. Пуцін знайшоў абгрунтаванне далучэння Крыма ў духу рускага нацыяналізму. Як следства, ранейшыя размовы аб адзінстве Беларусі, Украіны і Расіі цяпер апынуліся неактуальнымі».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Бадо Рамелаў

Першы ў гісторыі ФРГ зямельны прэм'ер ад партыі «Левыя» (нашчадкі былых камуністаў ГДР) не паспеў афіцыйна заняць пасаду кіраўніка ўраду зямлі Цюрынгія, як у зямельны парламент прыйшоў запыт ад судовых органаў суседняй Саксоніі. Суд Дрэздэна просіць цюрынгскі ландтаг разгледзець пытанне аб зняцці парламенцкай недатыкальнасці з Рамелава, паколькі ён павінен быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Саксонская пракуратура і паліцыя падазраюць кіраўніка цюрынгскага ўраду ў парушэнні права грамадзян на сходы. 13 лютага 2009 года Рамелаў разам з іншымі левымі актывістамі заблакаваў марш адной праварадыкальнай групоўкі, прысвечаны гадавіне бамбардзіроўкі Дрэздэна брытанскай авіяцыяй у 1944 годзе. Намер саксонцаў арыштаваць Рамелава мабілізаваў лагер яго прыхільнікаў. «Левыя» лічаць, што справу на цюрынгскага прэм'ера замовіла мясцовае кіраўніцтва Саюза хрысціянскіх дэмакратаў. Быццам, у партыі Меркель не могуць змірыцца з тым, што ўпершыню за 24 гады прайгралі выбары ў Цюрынгіі. У прынцыпе, кааліцыя «Левых» у ландтагу Цюрынгіі мае большасць, і пазбаўленне недатыкальнасці Рамелаву не пагражае. Тым не менш лідары «Левых» завілі, што ў выпадку арышту Рамелава левы кабінет працягне працаваць пад кіраўніцтвам іншага сябра партыі.

### Іон Бутмалай



Дэпутат малдаўскага парламенту ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі Малдовы (ЛДПМ) знойдзены забітым у сябе дома. Навіна выклікала вялікі рэзананс у грамадстве, паколькі раней Іон публічна казаў, што мае кампрамат на Альянс праеўрапейскіх партый, куды ўваходзіць ЛДПМ. Некалькі разоў ён прызначаў прэс-канферэнцыі, аднак пасля адмяняў іх з-за кепскага стану здароўя. Спекуляцыі вакол яго смерці таксама звязаныя з нестабільнай палітычнай сітуацыяй у краіне пасля парламенцкіх выбараў, калі праеўрапейскія сілы атрымалі перамогу з невялікай перавагай. Аднапартыйцы Бутламая кажуць, што смерць не мае палітычнага падтэксту. На іх думку, Бутмалай стаў ахвярай бізнэс-разборак. Між тым, стала вядома, што каля цела Іона знойдзена нейкая запіска. Як кажа адвакат сям'і нябожчыка, яе змест стане для некаторых людзей непрыемным сюрпрызам. Адвакат і сям'я сцвярджаюць, што Бутмалай пайшоў з жыцця пад ціскам кіраўніцтва ЛДПМ.

### Роджэр Бірд



Генсек брытанскай еўрафобскай Партыі незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (UKIP) напісаў заяву пра сваю адстаўку пасля таго, як выбухнуў гучны скандал наконт яго сексуальных дамагальніцтваў да сяброў партыі. Непасрэдна Роджэр, быццам, даставаў Наташу Больтэр (35 гадоў), якая планавала балатавацца ў парламент у наступным годзе. Бірд, па словах Наташы, быў не супраць яе кандыдатуры, аднак толькі ў выпадку, калі яна яго пацалуе. Сам Бірд кажа, што гэта поўная хлусня. У якасці доказу ён апублікаваў SMS-перапіску з Наташай, якая падобная на звычайную карэспандэнцыю каханкаў. Нягледзячы на знешнюю несур'ёзнасць гісторыі, чамусьці лідары UKIP патрабавалі ад Бірда пайсці ў адпачынак. Магчыма, гэта звязана з тым, што Больтэр лічылася жаночым тварам партыі і вельмі шмат ведае пра партыйныя сакрэты. UKIP баіцца, што выкрыцці Больтэр негатыўна паўплываюць на шансы UKIP на парламенцкіх выбарах у наступным годзе. Як піша прэса, менавіта пазіцыя выбаршчыкаў-жанчын вызначыць лёс галасавання.

# Сцэны жыцця Андрэя Курэйчыка

**Андрэй Курэйчык за свае 34 гады паспеў здзейсніць столькі, што цяжка паверыць яго пашпартным дадзеным. Некаторыя нават зайздросцяць і распускаюць на гэты конт шматлікія плёткі. Таму лепш хай Андрэй раскажа пра сябе сам.**




**Яшчэ на першым курсе я пайшоў у тэатр філфака БДУ. А паспрыяла такому выбару Ірына Камінская, з якой мы ў ліцэі сядзелі за суседнімі партамі. Іра паступіла на філалагічны факультэт універсітэта і запрасіла мяне ў тэатр**

## Дзіцячы пралог

Нарадзіцца выпала мне 14 студзеня 1980 года ў сям'і, якая толькі ў першым пакаленні прыехала ў Мінск.

Амаль усе мае сваякі гуртуюцца вакол вёскі Смілавічы. У некалькіх кіламетрах ад яе — Дукоршчына. Адтуль мой бацька Валянцін Сяргеевіч. Ён скончыў Наргас. Працаваў фінансістам, бухгалтарам, рэвізорам. Апошнія болей чым дзесяць гадоў працуе ў кантрольным аддзеле БДУ, займаецца ўнутраным аўдытам.

Напэўна, у дзяцінстве мне было даволі цяжка зразумець усе нюансы яго работы, а вось хобі бацькі — усходнія адзінаборствы — заўсёды падавалася зразумелым і блізкім.

Яшчэ да майго нараджэння бацька быў чэмпіёнам Беларусі. У дзяцінстве я літаральна трызніў гэтым, займаўся ў розных школах. Дарэчы, сваю секцыю на сталічным стадыёне «Тарпеда» адкрыў і бацька.

А да гэтага ён кіраваў ваенна-патрыятычным клубам «Каскад», які аб'ядноўваў былых дэсантнікаў, каратыстаў, кунфуістаў і г.д. Апроч таго бацька цікавіўся рознымі іншымі практыкамі адзінаборстваў (японскімі, кітайскімі, в'етнамскімі) і меў па іх розныя паясы.

Нейкі пояс займеў і я, калі ў 11 год стаў чэмпіёнам Мінска і Беларусі па паказе так званых ката — розных бескантактных дзівосаў.

Калі пайшла сур'ёзная вучоба, я быў вымушаны адмовіцца ад гэтага хобі. З цягам часу адышоў ад спорту і мой бацька. Ён напісаў па ўсходніх адзінаборствах некалькі кніг. Я па гэты дзень сустракаю яго вучняў, якія ўжо маюць свае секцыі.

Напэўна, шмат хто будзе цікавіцца, адкуль у звычайнага бухгалтара-эканаміста такое захапленне, таму адразу адкажу — з арміі. Ён служыў у добра вядомай брыгадзе дэсанту ў Мар'інай Горцы і цудам не трапіў у Афганістан.

Захапленне ўсходнімі адзінаборствамі даволі моцна дапамагае будаваць характар. Перш за ўсё прывучае да роздуму (у дзяцінстве я шмат чытаў Лао-Цзы, Канфуцыя, іншых кітайскіх і японскіх філосафаў) і фарміруе пэўную самапатрабавальнасць — калі табе балюча, нельга плакаць, трэба заўсёды «быць мужчынам».

Бацька прывіў мне характар байца, таму па сённяшні дзень я не баюся прымаць выклікі, не баюся жорсткіх дыскусій. Тыя заняткі пазбавілі ад многіх страхаў.

Мая маці, Святлана Вячаславаўна, родам з саміх Смілавічаў. Закончыла педынстытут, па спецыяльнасці «матэматыка». Працавала настаўніцай інфарматыкі, якая тады толькі-толькі ўвайшла ў школьныя праграмы. Таму перфакарты, першыя кампутарныя гульні таксама сталі часткай майго жыцця. Тэхналагічная рэвалюцыя праляцела на маіх вачах, праляцела імгненна.

На жаль, маці ўжо няма на гэтым свеце. Мне было ўсяго 12 гадоў, калі яна пайшла з жыцця — няшчасны выпадак. Успамінаю яе даволі часта, бо менавіта маці прывіла любоў да творчасці. Яна была вельмі творчым чалавекам. Займалася маім пазакласным жыццём, рознымі гурткамі, прывучыла шмат чытаць.

Я зараз столькі не чытаю, колькі чытаў у дзяцінстве, і тымі паспехамі, якія ёсць зараз, я абавязаны ў першую чаргу маці.

Мне пашанцавала застаць сваю прабабку Ганну. Калі не памыляюся, 1907 года нараджэння. Яна яшчэ памятала тых самых паноў, чый знакаміты палац захаваўся ў Смілавічах. Як і многія беларускія сяляне таго часу, яна ў Ваньковічаў працавала служкай.

А пра свайго малодшага (на два гады) брата Аляксандра я заўсёды ўзгадваю з асаблівымі пачуццямі. Ён быў сапраўдным операм, рэальна змагаўся са злачыннасцю: лавіў наркадылераў, сядзеў у засадах, захопліваў бандытаў... Аднак рана пайшоў у іншы свет зусім не ад гэтага. Памер на аперацыйным стале. Падчас аперацыі на падстраўнікавай залозе ў шпіталі МУС. Яму было ўсяго толькі 28 гадоў.

Ад другога шлюбу бацькі ў мяне ёсць яшчэ адзін брат Яраслаў. Зараз ён вучыцца ў гандлёвым каледжы, і хутчэй за ўсё па жыцці пойдзе фінансавым шляхам.

## Сцэны навучання

Я проста абагаўляю родны Аўтазаводскі раён. Лічу яго лепшым у Мінску. Я пражыў там усё жыццё і жыву зараз. На мой погляд, гэты раён быў амаль самым бяспечным у сталіцы.Так, рабацягі пасля змены маглі крыху выпіць, але ў «ліхія дзевяностыя» ў нас (у адрозненне ад іншых мікрараёнаў) не было ніякай шпаны, таму што саракагадовыя мужыкі, якія прастаялі за станкамі па восем гадзін, маглі за адну хвіліну скруціць у барані рог любога хулігана. У нашым раёне заўсёды былі парадак, чысціня і спакой.

Мая 25-я школа спецыялізавалася на паглыбленым вывучэнні англійскай мовы, і з часам стала гімназіяй. Напэўна, яна лічылася лепшай навучальнай установай раёну, бо там заўсёды была проста цудоўная англійская мова. Зараз я шмат езджу па свеце, і нідзе не могуць дакладна вызначыць, з якой краіны мой нязначны акцэнт.

У нас былі без перабольшванняў выдатныя педагогі. Закладзеная імі база дазваляе мне без праблем разумець усе спектаклі, свабодна кантактаваць з людзьмі, прымаць актыўны ўдзел у дыскусіях, хаця пасля заканчэння школы англійскую мову мэтанакіравана я нідзе не давучваў.

Зараз школьны будынак стаіць на рэканструкцыі, але тая атмасфера адчуваецца на ўзроўні падсвядомасці. Я там нават зняў моладзевую стужку «Вышэй за неба». Працягваю любіць і ўспамінаць і школу, і педагогаў з вялікая цеплынёй. Гэта была МАЯ школа.

У школе я складаў вершы, пісаў расказы і нават фантастычны раман, але гэта адбывалася не дзякуючы нейкім урокам, а дзякуючы аграмаднай колькасці прачытаных самастойна кніг. Перачытаў усяго Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, Купрына.

У адрозненні ад брата, я вельмі рэдка далучаўся да дваровых кампаніяў. Маці і бацька працавалі, і я амаль увесь час заставаўся дома адзін. І ў гэтай сваёй адзіноце амаль маніякальна чытаў кнігі.

Чытанне стала глебай для пісання. У мяне не было любімых жанраў, а крытычны рэалізм без праблем спалучаўся з фантастыкай.

Рухнула «жалезная заслона», і на экранах з'явілася амерыканскае фантастычнае кіно. З небывалымі для савецкага гледача спецэфектамі. У 1989 годзе на вялікім экране кінатэатра я ўпершыню ўбачыў «Зорныя войны» Джорджа Лукаса. Узрушальна! Зусім не тое, што мы бачылі ў класіцы савецкага кінематографа: «Госці з будучыні», альбо «Масква — Касіяпея».

Пасля дзявятага класа я пайшоў у ліцэй. Дакладней, не ў сам (першыя паўгады) ліцэй, а яго філіял, які месціўся тады на вуліцы Жудро. Другой веткі метро яшчэ не было, таму кожную раніцу прыходзілася ездзіць вучыцца з трыма перасадкамі.

Менавіта там на маім жыццёвым шляху і сустрэўся цудоўны настаўнік беларускай літаратуры і мовы Сяргей Скурат. Чалавек, які першым улюбіў мяне ў прафесію, навучыў разумець літаратуру.

Прычым менавіта беларускую, бо раней, калі сказаць вельмі мякка, я лічыў яе нечым несур'ёзным. Тут жа руская і сусветныя літаратуры адышлі на другі план, і для мяне адкрыліся глыбіні літаратуры беларускай. Мы заўсёды называлі свайго настаўніка «спадар Серж». У дадзены момант ён час ад часу дае бардаўскія канцэрты, а таксама выступае з Касяй Камоцкай.

Другім настаўнікам, дакладней, настаўніцай, якая прымусіла сур'ёзна паставіцца да сваёй творчасці, была Святлана Віктараўна Багранцава, якая выкладала рускую мову і літаратуру, калі я перайшоў з філіялу ў асноўную ўстанову.

Настаўніца з неверагодным сарказмам, высмейвала ўсе мае літаратурныя опусы. Напэўна, яна бачыла там талент, таму наўмысна абірала вельмі жорсткую іронію.

Раней, як любы графаман, я лічыў, што ўсё напісанае геніяльна. Святлана Віктараўна навучыла іншаму падыходу да напісанага — крытычнаму сумневу. Трэба заўсёды сумнявацца. У сваёй геніяльнасці, напрыклад. Інакш забранзавееш, страціш хватку. І проста не зразумееш, калі ў табе закончыцца літаратар, а пачнецца заштампаваны графаман.

Безумоўна, гэта была надзвычай цяжкая навука. Я злаваўся, што нехта не прызнае зробленага мною.

У выніку гэта крытыка выратавала ад зорнай хваробы, бо прафесійную кар'еру я пачаў вельмі рана, і ўжо на чацвёртым курсе БДУ меў пастаноўкі ў Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатры імя Чэхава. Такога ў гісторыі гэтага знакамітага тэатру не было ніколі.

Аднак пасля заканчэння ліцэю я паступіў на паліталагічнае аддзяленне юрыдычнага факультэта БДУ, што і тлумачыць інтарэс да палітыкі. Тады яшчэ можна было публічна прытрымлівацца адрозных ад афіцыйных поглядаў. Мы нават хадзілі наглядальнікамі на выбары і дазвалялі сабе потым вельмі крытычныя меркаванні. Памятаю, адна з маіх курсавых у сваёй назве ўтрымлівала — «Класіфікацыя і метадалогія дыктатур». Для напісання быў выкарыстаны менавіта беларускі «досвед».

## Спектаклі жыцця

Пры пануючым у той час палітычным вальнадумстве мы старанна вывучалі ўсё, што датычылася непасрэдна юрыспрудэнцыі — крымінальнае, гаспадарчае, адміністрацыйнае права, працэс, тэорыю права і г.д. На мой погляд, гэта спалучэнне нейкай «вольніцы» з юрыдычнай дакладнасцю, і нават жорсткасцю, дало даволі цікавы эфект.

Дысцыплінавала думкі і адначасова прывучала думаць самастойна. Фарміравала структураванасць мыслення, што вельмі важна для драматургіі, бо любая п'еса альбо кінасцэнар маюць канкрэтную структуру і дакладную логіку. І ў той жа час дазволіла не зашорыцца.

Вучоба дазволіла захаваць пэўную (з большасці крытычную) свабоду мыслення наконт развіцця краіны. Не пайсці ў адкрытую апазіцыю і не пачаць

служыць уладзе. Не трапіць у палон той ці іншай ідэалогіі, ва ўсім сумнявацца.

Адначасова з вучобай, пачынаючы з другога курсу, я пачаў працаваць. У юрыдычнай фірме «Уласаў і партнёры», адной з лепшых, на мой погляд, у краіне і адной з нямногіх, убудаваных ў сістэму міжнароднай юрыспрудэнцыі. Ёй рабілі заказы сусветна вядомыя канцэрны, накшталт «Макдоналса», нафтавыя карпарацыі, структуры Еўрасаюза, і нават беларускі ўрад.

Мне пашанцавала два гады працаваць побач з самымі лепшымі юрыстамі Беларусі. Натуральна, што студэнту з большасці прыходзілася выконваць не самыя важныя функцыі. Напрыклад, я сядзеў у чэргах у райвыканкам, калі была патрэба зарэгістраваць фірму альбо зрабіць нешта іншае.

Дарэчы, з гэтай нагоды ўпершыню сутыкнуўся з Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам і пазнаёміўся з тагачасным рэктарам Міхайлавым. Іх юрыдычным суправаджэннем займалася менавіта наша фірма.

Паралельна з гэтым развівалася творчае жыццё. Яшчэ на першым курсе я пайшоў у тэатр філфака БДУ. А паспрыяла такому выбару Ірына Камінская, з якой мы ў ліцэі сядзелі за суседнімі партамі. Іра паступіла на філалагічны факультэт універсітэта і запрасіла мяне ў тэатр.

Вечарамі я хадзіў на іх рэпетыцыі, пачаў выконваць нейкія ролі. Зразумеў, як усё працуе і кіруецца, адчуў сувязь з публікай, і, як кажуць, палюбіў сцэну. Менавіта там я і напісаў сваю першую п'есу, і сам (з акцёрамі студэнцкага тэатра) яе паставіў. Гэта быў сапраўдны фурор. Заля літаральна разрывалася ад апладысментаў. Мы яе ставілі разоў дзесяць. П'еса называлася «Споведзь Пілата» і атрымала станоўчую прэсу. Я зразумеў, што магу і ўмею гэта рабіць.

Па сутнасці ў тэатры было два кіраўнікі — былая жонка вядомага кампазітара Яўгена Глебава Людміла Ярмак і іх сын Сяргей Яўгенавіч Глебаў. На жаль, абодвух ужо няма на гэтым свеце. Спачатку, як і мой брат, на аперацыйным стале памёр Сяргей. Маці гэта вельмі балюча перажывала і праз некалькі гадоў пайшла з жыцця сама.

Ад іх я вынес некалькі вельмі важных жыццёвых урокаў. Першы з іх — дэбют у якасці драматурга. Будучы глыбока праваслаўным, Сяргей Яўгенавіч, акрамя ўніверсітэцкага, адкрыў яшчэ невялікі тэатр пры Петрапаўласкім саборы. Гледачамі былі прыхаджане, а п'есы ставіліся выключна філасофска-рэлігійнага плану. Так у маёй творчасці ўпершыню ўзнікла тэма рэлігіі і духоўнасці.

Для чалавека, схільнага да пастаяннага сумневу і сарказму, гэта было цалкам новым і значна пашырала светапогляд. Напісаліся адпаведныя п'есы. Напрыклад, «Понцій Пілат», які потым быў пастаўлены ў тэатры беларускай драматургіі, альбо «П'емонтскі звер», дзе фабулай стала жыццё манастыра. Гэтую п'есу потым паставілі ў пятнаццаці тэатрах СНД. Па сутнасці, яна і зрабіла мяне вядомым у Беларусі драматургам.

Такім чынам, адначасова супалі адразу чатыры пласты: свабода палітычнай думкі, жорсткая структураванасць юрыспрудэнцыі, нейкае заліхвацкае жыццё ў прасторы студэнцкага тэатра-лабараторыі і рэлігійны накірунак творчасці. І на гэтай глебе з'явіліся п'есы, якія далі старт і сталі своеасаблівым пераломным момантам майго жыцця.

Адбылося гэта ў 1999–2000 гадах. Я даслаў свае творы ў розныя тэатры. Спачатку патэлефанавала памочніца Табакова, сказала, што іх тэатр мае намер паставіць маю п'есу і запрасіла прыехаць у Маскву. Алег Паўлавіч са мной пагаварыў і даў дабро.

Пасля той пастаноўкі, па пратэкцыі Табакова, мне пашанцавала трапіць у праграму атрымання другой вышэйшай адукацыі і скончыць пасля БДУ яшчэ і Маскоўскі інстытут перападрыхтоўкі работнікаў мастацтва і культуры. Так я афіцыйна стаў рэжысёрам.

У Маскве пражыў амаль год і мог бы без праблем там і застацца, але зразумеў — не мой гэта горад. Масква — жорсткі Вавілон, які прымушае людзей жыць па сваіх правілах, а я чалавек, які вельмі любіць свабоду.

Аднак вернемся да часоў маладосці. Паралельна яшчэ адну маю п'есу пачалі ставіць у Мінску, потым — у Гродна. Я зразумеў, што фармуецца новая прафесія, і кінуў юрыспрудэнцыю, у сэнсе звольніўся з работы ў фірме «Уласаў і партнёры».

У 2002 годзе з чырвоным дыпломам я скончыў БДУ. У той час ужо працаваў у беларускім Саюзе тэатральных дзеячаў, таму патрэбы ў размеркаванні не было. Адразу паступіў у аспірантуру на тэатральную крытыку, то бок журналістыку.

На жаль, абараніцца не здолеў па той прычыне, што тэатр (фестывалі, п'есы, прэм'еры) хутка стаў асноўнай часткай майго жыцця, і я ўжо праз год з аспірантуры ганебна збег.

Хаця і паспеў даволі шмат напісаць — больш за трыста артыкулаў. У асноўным — рэцэнзіі на спектаклі. Яны былі вельмі крытычнымі, таму ворагаў за той год у мяне стала значна больш.

Пра сваё рашэнне развітацца з аспірантурай шчыра сказаў свайму навуковаму кіраўніку, вядомаму беларускаму крытыку Таццяне Дзмітрыеўне Арловай. Маўляў, не быць мне кандыдатам навук і дацэнтам. Не маё гэта.

На пачатак новага тысячагоддзя прыходзіцца яшчэ некалькі буйных праектаў, да якіх я меў самае што ні ёсць непасрэднае дачыненне. Першы звязаны са стварэннем тэлеканала АНТ. Дарэчы, задумваўся ён як часткова прыватны і часткова дзяржаўны і больш свабодны, чым афіцыйнае беларускае тэлебачанне.

Спачатку так яно і было. Прыйшла маладая каманда, дзе я быў галоўным рэдактарам тэлеканала і прыдумаў ток-шоў «Выбар», куды першым вядучым быў пакліканы палітолаг Валодзя Мацкевіч. Потым яго звольнілі, а ўсіх прыватных інвестараў кіраўнік АНТ Рыгор Кісель адсунуў. Канал пачаў ператварацца ў другое БТ, і я сышоў.


Мітынг каля філармоніі, 2004 год


Вяселле, 2006 год


Андрэй Курэйчык са студэнтамі, 2005 год

У 2003 годзе прапанаваў стварыць у Мінску Міжнародны тэатральны фестываль «Адкрыты фармат», стаў яго артдырэктарам, але і яго дзяржава даволі хутка ўзяла пад кантроль. Мяне выключылі са складу аргкамітэта, а сам фестываль перайменавалі ў «Панараму».

Паралельна мы спрабавалі адкрыць у Беларусі Цэнтр драматургіі і рэжысуры, і нават рыхтавалі першы спектакль. Улады спачатку ідэю падтрымалі, а ў апошні момант зноў кінулі. На базе таго, што ўжо было створана, узнік «Свабодны тэатр».

Акрамя гэтага пэўны час я рэдагаваў газету «Веснік культуры». Пасля таго, як газету выкінулі з кіёскаў, прыйшлося сысці, бо мая рэпутацыя незалежнага чалавека значна ім шкодзіла.

## Кіно будучыні

У 2006 годзе ў маім жыцці адбыўся яшчэ адзін кардынальны паварот. Маю на ўвазе кінафільм «Любовь-морковь». Поспех быў ашаламляльны. Карціну паказалі амаль ва ўсіх кінатэатрах СНД.

У тэатры толькі адзін зал, а тут — тысячы экранаў. Мяне гэта вельмі захапіла. Пайшлі камедыі, дэтэктывы, ваенныя драмы... На дадзены момант іх ужо больш дваццаці. Тры гады таму першы трыумф быў паўтораны «Елкамі», якія аказаліся суперпаспяховымі і запусцілі працэс. Зараз кожны новы год будзе нешта падобнае.

Хутка ўсё гэта (камерцыйны поспех) крыху надакучыла, бо я марыў, мару і буду марыць пра кіно нацыянальнае. Беларускае. Па гэтай тэме я вельмі крытычна выказваўся ўжо тысячу разоў. У нас усё ёсць: грошы, магчымасці, таленты. Няма палітычнай волі, цікавай тэмы, сапраўднай творчасці, то бок усяго, што можа запусціць махавік.

Па гэтай прычыне, на мой погляд, айчыны кінематограф існуе толькі намінальна. Здымаем не самыя лепшыя расійскія серыялы, спрабуем займацца нейкай ідыёцкай прапагандай, тыпу «Авеля», а нацыянальнага беларускага кіно няма. У Расіі ёсць, у Польшчы ёсць, а ў нас — няма.

Адзін Андрэй Кудзіненка, які арганізаваў мой акторскі дэбют у фільме «Акупацыя. Містэрыі», не можа за ўсіх цягнуць воз рэжысуры. Міхаіл Пташук адышоў у іншы свет і, на жаль, не пакінуў пасля сябе дастойных вучняў, якія маглі б працягваць яго справу.

Новага, у гэтым сэнсе моцнага пакалення пакуль не з'явілася, таму і добрай беларускай рэжысуры катастрафічна не хапае. Акрамя гэтага не хапае творчай свабоды. За «Вышэй за неба» я біўся, як звер, бо прынцыпова лічу, што, калі мы гаворым пра кіно як пра мастацтва, яно павінна быць смелым, цэласным, непадцэнзурным.

У нейкім сэнсе, бітва была амаль крывавай. І я вельмі спадзяюся, што змог праз свой фільм паказаць: мы пабудавалі такую краіну, у якой свабодным можа быць толькі хворы на СНІД.

Паміж маім фільмам і кудзіненкаўскім «Акупацыя. Містэрыі» — дзесяцігадовы інтэрвал. Пасля «Вышэй за неба» — зноў правал. Дарэчы, той фільм Андрэй Кудзіненка зрабіў за вельмі невялікія грошы галандскага Фонду па падтрымцы кіно, таму і змог пазбегнуць беларускай цэнзуры.

Некаторы час я выкладаў ва Універсітэце культуры. Матэрыяльна гэта падобна на гуманітарную дапамогу, але галоўным было іншае. Беларусі вельмі патрэбны свае сцэнарысты, рэжысёры. Трэба іх вучыць, а вучыць няма каму. Таму я і пагадзіўся, але выкладчыцкі перыяд быў вельмі кароткім. Ад мяне банальна пазбавіліся.

Калі нехта лічыць, што беларускія ўлады станоўча ставяцца да Курэйчыка, то гэта абсалютная хлусня. На самай справе, мне не даюць тут ні зняць кіно, ні паставіць спектакль.

З апошняй буйной пастаноўкі («Пане Каханку») прайшло больш за тры гады, і нічога іншага рэалізаваць у Мінску ў мяне не атрымалася. Многія кажуць, што (асабліва) пасля выказванняў пра прэзідэнцкія выбары 2010 года з маім прозвішчам «ёсць праблемы».

Адзін плюс — я ў іх нічога не прашу. Я адкрыта прамаўляю тое, што не падабаецца беларускім уладам.

Добрыя п'есы, калі яны сапраўды таго вартыя, перажывуць усіх чыноўнікаў. Шэкспір напісаў свае п'есы 400 гадоў таму, а «Гамлет» на розных сцэнах ставяць па наш дзень.

Спадзяюся, што і ў мяне ёсць нешта вартае для нашчадкаў.

А вось з кіно ўсё значна складаней. Гэта мой боль. Кіно — калектыўнае мастацтва, аднаму, нават самаму таленавітаму, тут нічога не зрабіць. Каб атрымалася годна, трэба агульнае супадзенне высокай прафесійнасці — рэжысёр, сцэнарыст, аператар, акцёры, дэкаратары, здымачная група. Словам, патрэбны моцны калектыў.

Па гэтай прычыне я і імкнуся выкладаць кінасцэнарыстыку ў ЕГУ і прыватнай мінскай школе. Кіно — гэта не толькі грошы. Пры жаданні, яго можна зняць і на мабільнік, трэба, каб здымачная пляцоўка літаральна бурліла ад ідэй.

На жаль, у Беларусі на іх зараз адчувальны крызіс. Такое ўражанне, што людзям сёння няма што сказаць, альбо сказаць гэта яны баяцца.

*Літаратурны запіс Аляксандра Тамковіча*

**Больш фота на нашым сайце: novychas.info**

# Гісторык, які вярнуў нам годнасць

**Кніга пра Міколу Ермаловіча працягнула серыю «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». У брашуры кішэннага фармату — каб зручней было чытаць у грамадскім транспарце — аўтар імкнуўся перадаць усю значнасць асобы славутага гісторыка.**



Аўтарам кнігі пра Міколу Ермаловіча стаў Анатоль Астапенка — навуковец, літаратар і палітык, які асабіста яго ведаў. На пачатку 1990-х гадоў Ермаловіч і Астапенка былі сустаршынямі Нацыянал-дэмакратычнай партыі і сябравалі.

«Уціснуць такую гіганцкую постаць у такі невялікі памер — гэта складаная задача, таму трэба было зрабіць квінтэсенцыю ўсяго, што я мог сказаць. Думаю, у мяне гэта атрымалася, і галоўнае я сказаў: гэта чалавек, які вярнуў годнасць народу», — адзначыў Анатоль Астапенка, аўтар кнігі.

Серыю «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» запачаткаваў Анатоль Тарас ды Інстытут беларускай гісторыі і культуры. Кніга пра Ермаловіча — 25-я ў серыі. Спадар Анатоль называе тых асобаў, якім будуць прысвечаныя наступныя пяць выданняў.

«Баршчэўскі быў наш знакаміты пісьменнік, паэт. Мікалай Нікіфароўскі, краязнаўца. Аляксей Сапуноў, таксама краязнаўца. Потым мастак Іван Хруцкі і самы знакаміты ў свеце менчук — кампазітар Станіслаў Манюшка», — кажа рэдактар серыі Анатоль Тарас.

Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» разлічаная на бліжэйшыя пяць гадоў. Апошняе выданне мае выйсці ўвесну 2019 года.

**belsat.eu**

# Сучасны гарадскі раман

**Прэзентацыя новай кнігі Кірыла Дубоўскага адбудзецца 17 снежня ў кнігарні «логвінаЎ»**




«Planktonus Vulgaris» — сучасны гарадскі раман, які выйшаў пры падтрымцы Беларускага ПЭН-цэнтра і выдавецтва «логвінаЎ».

Другая кніга Кірыла Дубоўскага апавядае пра маладога выпускніка ўніверсітэта Канстанціна, які шукае сваю першую працу, каб нарэшце злезці з бацькоўскай шыі. Ён яшчэ не ведае, што зрабіць гэта апынецца не так проста, і наперадзе яго чакаюць дзевяць колаў запамінальных сумоўяў, і нават часовы гарнітур «спецыяліста па продажах». Не падазрае ён і пра тое, што, калі трапіць у доўгачаканы офіс, яго ная асабістая, але цікавая гісторыя толькі па-сапраўднаму пачнецца...

Рэдактар кнігі Павел Анціпаў ахарактарызаваў «Planktonus Vulgaris» як «кнігу пра маленькага чалавека», а мастачка вокладкі Ксенія Корзун звярнула ўвагу на яе надзвычайную трагікамічнасць. «Мне спадабалася канцэпцыя: усё дзеянне перададзенае маленькімі ёмістымі штрышкамі», — дзеліцца сваімі ўражаннямі пасля прачытання пісьменнік Дзяніс Дробышаў.

Кірыл Дубоўскі — фіналіст конкурсаў маладых літаратараў да стагоддзя газеты «Наша Ніва» (Мінск, 2007), Слово.doc (Мінск, 2009), імя Ларысы Геніюш (Мінск, 2010). Сябар Беларускага ПЭН-цэнтра. Першая ягоная кніга — «Хороший роман» — выйшла ў 2012 годзе.

Прэзентацыя «Planktonus Vulgaris» адбудзецца 17 снежня ў 19.30 у кнігарні «логвінаЎ» (Мінск, пр. Незалежнасці, 37а).

Уваход вольны!

**Беларускі ПЭН-цэнтр**

# Пазнач сябе беларусам

**Акцыя па раздачы ў Мінску стужак з беларускім нацыянальным арнаментам выклікала шырокі грамадскі розгалас. У інтэрнэце яна сабрала нямала каментараў і водгукаў.**



Па інфармацыі «Арт-сядзібы», 6 снежня ў Мінску каля 100 валанцёраў падчас першай акцыі раздалі 12 тысяч стужак (каля пяці кіламетраў) з беларускім арнаментам.

За ўвесь час, калі раздавалі беларускія стужкі, не знайшлося такога чалавека, які б адмовіўся ад чырвонай стужкі з беларускім арнаментам альбо неяк негатыўна выказаўся наконт акцыі. Напрыклад, пра гэта сведчыць валанцёр і журналістка «Арт Сядзібы» Марына Яўсейчык. Хоць раздачу стужак успрынялі па-рознаму: першапачатковае разгубленае маўчанне змянялася ў людзей на ўсмешку і словы падзякі на беларускай і рускай мовах, а хтосьці адразу прасіў некалькі стужак, каб хапіла на ўсю сям'ю.

Па словах Марыны, натуральна, што людзі былі не падрыхтаваныя да акцыі «Беларуская стужка», яны, як і звычайна, ішлі ў гандлёвы цэнтр «Квадра» за пакупкамі, таму спачатку асаблівай увагі на Марыну ніхто не звяртаў. Некаторыя не разумелі, як можна выкарыстаць стужку. Тады Марына расказвала, што можна завязаць на сумцы, альбо дзіцёнку на заплечнік, а дома зрабіць банцік на ручцы пакаёвых дзвярэй ці падвязаць фіранкі.

«Прадавачкі з розных крамаў збегліся да мяне за стужкамі. Вітаюцца, дзячаць на роднай мове. Распытваюць, з якой нагоды раздаю іх. Кажу, што свята беларускай стужкі. На стужках — беларускі арнамент. Жанчыны разглядваюць стужкі, гладзяць іх на далоні, пасля сціскаюць іх у кулачок і шырока ўсміхаюцца, быццам бы стужка тая грэе іх далоньку. Сыходзіць з настроем. А ў мяне адчуванне задавальнення ад зробленай працы. І трошачкі шкадавання, што стужкі хутка скончацца. Уяўляеце, падляцелі да мяне малыя хлопчыкі, кажуць: «А давайце мы таксама будзем раздаваць!», і цягнуць рукі да беларускіх стужачак. Здзівілася, што са мной на роднай мове размаўляюць. Аказваецца, некаторыя з хлопчыкаў у беларускамоўны клас ходзяць, а ў кагосьці старэйшыя браты-сёстры дома размаўляюць па-беларуску», — прыводзіць словы Марыны сайт «Арт-сядзібы».

Між тым, як высвятліла «Радыё Свабода», стужка з беларускім арнаментам, якую раздавалі мінакам у Мінску, вырабляецца і прадаецца даўно. Попыт на яе, як прызнаюцца вытворцы, пакуль не надта вялікі. Вырабляе яе Магілёўскае акцыянернае таварыства «Стужка».

Паводле намесніцы генеральнага дырэктара прадпрыемства Ніны Пятровай, аб'ём вырабу стужкі на год — да 50 тысяч метраў. Для Беларусі, зазначае Ніна Рыгораўна, гэткі метраж замалы.

На пытанне, чаму прадукцыя з нацыянальным беларускім сімвалам прадаецца кепска, суразмоўніца кажа, што даўно сама шукала адказу. Пасля шматгадовых назіранняў зрабіла выснову, што беларусы гэтую стужку ўспрымаюць як афіцыйную: «З гэтай стужкай трэба ісці на дзяржаўнае свята або гэтую стужку трэба да сцяга прымацаваць, але ніякім чынам яны не ўспрымаюць яе ў падарунках ці наагул у нашым штодзённым жыцці, — тлумачыць свае назіранні Ніна Пятрова. — Яны лічаць, што ёю нават нясціпла падарунак перавязаць. Падарунак жа развязаў, а стужку выкінуў, але куды ж ты будзеш такую важную стужку выкідаць у сметніцу».

На думку Ніны Пятровай, гэткае ўспрыманне стужкі няслушнае, і яго трэба неяк мяняць. Не саромецца свайго, зазначае суразмоўніца: «У маім разуменні, калі ўнівермаг прадае, то чаму там не могуць гэтай стужкай перавязаць падарунак які ці пакупку. Калі якому замежнаму дзядзьку дорыш падарунак, дык абавязкова на ім трэба завязаць гэтую стужку».

У фірмовай краме акцыянернага таварыства ў продажы стужкі, якую раздавалі ў Мінску, не аказалася, аднак выбар падобных у іншай колеравай гаме шырокі. Як кажуць прадаўцы, набываюць гэтыя стужкі для аздобы дзіцячых сукенак і на святы.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1669

Падпісана да друку 12. 12.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.